*Зьміцер Саўка* (Менск, Беларусь)

# АБНАЎЛЕНЬНЕ ЦІ КАНСЭРВАЦЫЯ?

## Актуальныя праблемы беларускай лацініцы

Тэма лацінкі[1] па-рознаму ўспрымаецца ў беларускамоўнай грамадзе – ад апалёгіі да поўнага непрыманьня. Аднак нават у тых, хто не прызнае за лацінкаю будучыні, не знаходзіцца абгрунтаваных пярэчаньняў супраць выкарыстаньня лацінкі пры передачы беларускай анамастыкі (уласных назоваў) у тэкстах, напісаных на мовах, якія выкарыстоўваюць лацінскую графіку (далей: лацінічныя тэксты)[2]. Пра запатрабаванасьць беларускай лацініцы нават цяперашнімі ўладамі Беларусі сьведчыць факт прыняцьця адпаведнага дакумэнта – "Інструкцыі па транслітарацыі геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь літарамі лацінскага алфавіта", уведзенай пастановаю Дзяржаўнага камітэту зямельных рэсурсаў, геадэзіі ды картаграфіі Рэспублікі Беларусь 23 лістапада 2000 году[3].

З большаю ці меншаю рэгулярнасьцю аб праблеме трансьляцыі беларускай анамастыкі сродкамі лацінскае графікі нагадваюць міжнародныя форумы ў справе стандартызацыі ў інфармацыйнай сфэры. Гэтак, 9–13 кастрычніка 2006 году ў Таліне адбылася канфэрэнцыя экспэртаў ААН (арганізатары – МУС Эстоніі ды Інстытут эстонскае мовы), якая прыйшла да высновы, што ўкраінскія й беларускія геаграфічныя назовы на мапах ды ў іншых картаграфічных дакумэнтах мусяць перадавацца паводле правілаў украінскае й беларускае лацініцы адпаведна[4]. 21–30 жніўня 2007 году ў Нью-Ёрку адбылася Дзявятая канфэрэнцыя стандартызацыі геаграфічных назоваў Групы экспэртаў ААН у геаграфічных назовах, дзе таксама неаднаразова разглядалася беларускае пытаньне[5].

Такім чынам, пытаньне лацінкі ўсё ж такі выглядае актуальным, незалежна ад таго, ці стане беларуская мова для шырокага карыстальніка лацінічнаю.

Гісторыя лацінкі пачынаецца, наколькі мы можам меркаваць, у 16 стагодзьдзі. Першы вядомы нам надпіс – на Моладаўскім звоне 1583 году[6]. Цягам 16–18 стагодзьдзяў беларускія тэксты афармляліся паводле польскай мадыфікацыі лацініцы, у сярэдзіне 19 стагодзьдзя зьявілася першая графэма, адрозная ад польскага набору літараў, – **ŭ** (варыянты **ǔ**, **û**, **ú**, **ü**[7]). На пачатку 20 стагодзьдзя зьмянілі сваё аблічча графічныя абазначэньні для шыпячых: замест дыграфаў **cz**, **sz** – графэмы з дыякрытыкаю **č**, **š**[8]; такі ж дыякрытычны знак ("га́чэк" з чэскае графікі) атрымала літара **ż** → **ž**. У 1930-х гадох адбылася апошняя зьмена ў лацінкавай абэцэдзе: літара **w**, атрыманая зь нямецкай праз польскае пасярэдніцтва, замянілася на **v**. У такім выглядзе лацінка дайшла да нашага часу (далей: традыцыйная лацінка).

Аднак нельга цьвердзіць, што лацінкавы правапіс цалкам кадыфікаваны. Да таго ж артаграфічная неўнармаванасьць стрымлівае і шырэйшае ўжываньне лацінкі, і далейшую нарматворчую дзейнасьць: выданьне лацінкавае граматыкі, слоўнікаў на лацінкавай аснове. Неразьвязанымі, на наш погляд, застаюцца наступныя пытаньні (большасьць зь іх пералічаныя Міколам Пачкаевым[9]):

1. Ці паказваць на пісьме **j** у становішчы перад **i** на пачатку слова й пасьля галосных.
2. Правапіс **g** і **h**.
3. Перадаваньне [**x**] (праз **ch** ці праз **x**).
4. Амаграфія спалучэньняў **ia**, **ie**, **io** пры зьбегу галосных на марфэмным сутыку.
5. Перадаваньне цьвёрдасьці й мяккасьці **l** (праблема **ł**).
6. Графічнае разьмежаваньне барбарызмаў і пазычаньняў.

Мы зьвярнулі ўвагу на тыя пытаньні, што ўяўляюцца нам сапраўды актуальнымі для беларускай лацініцы. Шматлікія прапановы, як, напрыклад, адмаўленьне ад

---

[1] Пры напісаньні артыкула аўтар імкнуўся дыфэрэнцыяваць тэрміны (1) *лацінкавае пісьмо*, *лацінка* 'спэцыфічна беларуская сыстэма пісьма лацініцаю' і (2) *лацінічнае пісьмо*, *лацініца* 'графіка на аснове лацінскага альфабэту безадносна да канкрэтнае мовы'; такім чынам, *лацінка = беларуская лацініца*.

[2] Мальдзіс Адам, Рагойша Вячаслаў, Цыхун Генадзь. Якім быць нашаму пашпарту // Наша слова. 1993. № 46 (154). 17 лістапада.

[3] Об утверждении Инструкции по транслитерации географических названий Республики Беларусь буквами латинского алфавита: Постановление Государственного комитета по земельным ресурсам, геодезии и картографии Республики Беларусь от 23 ноября 2000 г. № 15; Инструкция по транслитерации географических названий Республики Беларусь буквами латинского алфавита (сфера действия общеобязательная) // Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь. 8/4488. 11 января 2001 г. № 3. 30.11.2000.

[4] Студзінская Іна. Экспэрты ААН: не Belorussia ці Weissrusland, а Belarus' // http://www.svaboda.org/articlesfeatures/society/2006/10/E1387091-683E-49FB-A662-7E46BF394A4E.html; Шестакова Ольга. На мировых картах не будет Weissrusland. Только Belarus´: Иностранцы будут писать наши названия белорусской латинкой // Комсомольская правда в Белоруссии. 2006. 13 октября.

[5] Ninth United Nations Conference on the standardization of geographical names: New York, 21–30 August 2007 / Department of Economic and Social Affairs. New York, 2007. {E/CONF.98/136} P. 22. Entry 130; P. 26. Entry 163; Расейская вэрсія: Девятая Конференция Организации Объединенных Наций по стандартизации географических названий: Нью-Йорк, 21–30 августа 2007 года / Департамент по экономическим и социальным вопросам. Нью-Йорк, 2007. С. 27. Пункт 130; С. 32. Пункт 163.

[6] Гісторыя беларускага мастацтва. У 6 т. Т. 1. Мінск, 1987–1994. С. 266–267.

[7] Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. У 2 т. Т. 2 / І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч. Мінск, 1968. С. 33, 38, 41, 42 і далей; [Early Modern Belarusian Book-Printing in London: A Lecture by Mikalaj Pačkajeŭ Held at Anglo-Belarusian Society Meeting on March 2, 2003].

[8] Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. С. 118–119.

[9] [Pačkajeŭ Mikalaj]. Starabielaruskaja Lacinka: http://www.cus.cam.ac.uk/~np214/zygim.htm; [Mikalaj Pačkajeŭ]. Белорусская "Латинка": http://www.cus.cam.ac.uk/~np214/lacinru.htm; ангельская вэрсія: http://www.cus.cam.ac.uk/~np214/lacin.htm.

традыцыйнай дыякрытыкі на карысьць дыграфаў[10] або, наадварот, увядзеньне новых літарных і нялітарных знакаў, зьмена прынцыпаў перадаваньня мяккасьці зычных, – усё гэта накіраванае на разбурэньне лацінкі як унікальнага, гістарычна абгрунтаванага нацыянальнага фэномэну.

Гэты тэкст мы публікуем у надзеі на водгук з боку зацікаўленых асобаў і інстытуцыяў – у якасьці грунту для далейшае дыскусіі ды, як вынік, навукова-практычнай канфэрэнцыі, што канчаткова разьвяжа пералічаныя намі праблемы.

## 1. Перадаваньне гукавага спалучэньня [ji] (праблема *j* перад *i* на пачатку слова й пасьля галосных)

### 1.1. Умовы ўзьнікненьня ёта

У беларускай літаратурнай мове мае месца **тэндэнцыя да прыкрыцьця складоў**. У выпадку з націскнымі пачатковымі складамі гэтая тэндэнцыя ператвараецца ў закон: пачатковы націскны галосны прыкрываецца пратэзаю (прыстаўным зычным), зазвычай фанэтычна блізкаю гэтаму галоснаму: перад агубленымі гукамі [**ú**] і [**ó**][11] – губны [**v**], перад неагубленым [**é**] – [**h**][12], перад [**i**] – яго “зычны адпаведнік” [**j**]. Пры зьнікненьні дастатковых умоваў для разьвіцьця пратэзы (звычайна пры зьмяшчэньні націску на наступныя склады), прыстаўны, як правіла, не разьвіваецца: ***во́***сень – *асяніны*, ***ву́***праж – *упрэ́гчы*, [**j**]*і́скра* – *іскры́цца*. Статус закону пацьвярджаецца тым, што ў народнай мове ён падпарадкоўвае сабе нават новыя пазычаньні (***во***фіс), а ў літаратурнай мове з прыстаўным замацаваліся даўнія пазычаньні: ***во****дар*, ***во****хра*, ***во****цат*, ***ву****нія.*

У межах тэндэнцыі да прыкрыцьця складоў адбываецца й скасаваньне “зеўраньня” (“зьбегу галосных”) праз разьвіцьцё эпэнтэзы:

1) у корані слова: *па****в****ук*;

2) на сутыку прыстаўкі й кораня з пачатковым галосным: *за****в****улак*, *на****в****ука*, *у****в****огуле*, *пра*[**j**]*існаваць*;

3) на сутыку прыназоўніка **у** й слова з пачатковым галосным (у гэтым выпадку эпэнтэза на пісьме звычайна[13] не паказваецца): *у* [**v**]*адрыне*;

4) у спалучэньнях іншамоўнага паходжаньня:

– **ia**, **ie**, **io**, **iu** – як закон: *аві*[**j**-a], *ды*[**j**-e]*та*, *шпі*[**j**-o]*н*, *опі*[**j**-u]*м*; *ці****в****ун*[14], *Лары****в****он*, *Радзі****в****он*;

– **-ai-**, **-au-**, **-eo-**, **-eu-** ў сярэдзіне слова – *архá*[**j**]*іка*, *арха*[**j**]*íчны*, у тым ліку ў даўніх пазычаньнях: *На****в****ум*, *Ля****в****он*, *Тадэ****в****уш*;

– **-ea**, **-eo** на канцы слова: *ідэ****я***, *камэ****я***, дзе ёт разьвіўся дзеля выраўноўваньня асновы (каб аснова формы назоўнага склону супадала з асноваю формаў ускосных склонаў).

У дыялектах замест [**v**] можа выступаць [**h**]: [**v**]*уліца* – [**h**]*уліца*, замест [**h**] – [**j**]: [**h**]*эты* – [**j**-e]*ты*; замест [**j**] – [**v**]: [**j**-o]*н* – [**v**]*он.* Таксама прыстаўныя могуць разьвівацца там, дзе, здавалася б, няма ўмоваў для іх узьнікненьня – паводле аналёгіі зь іншымі формамі слова ці аднакаранёвымі: [**v**]*астравы*, бо [**v**]*остраў*, [**v**]*ачніцы*, бо [**v**]*очы*, а таксама – “па-за аналёгіяй”: [**h**]*авечка*, [**h**]*ануча*, [**h**]*араць*, [**j**]*агрэст*. Такім чынам, [**v**]–[**h**]–[**j**], пры вялікай розьніцы і ў артыкуляцыі[15], і ў акустыцы[16], складаюцца ў **адзіны пратэтычна-эпэнтычны шэраг**.

Аднак прыстаўному і ўстаўному ёту, у адрозьненьне ад астатніх прыстаўных і ўстаўных – [**v**] і [**h**], “не пашанцавала”: ён адлюстроўваецца на пісьме толькі ў становішчы перад [**ó**/**a**] у займеньніках *ён*, *яна*, *яно*, *яны*. Хоць спарадычна ёт пазначаўся нават у старабеларускіх тэкстах рэлігійнае тэматыкі, у якіх, як вядома, інавацыі зьяўляліся ў апошнюю чаргу: “хотѧ̓ иˣ не вѣдаю (Псалт. XVII в.), хотѧ̓ ѡ̓ни (122б ib.) (в обоих примерах *хотяй*)”[17][18]. Праўда, ёт падаецца тут як фіналь папярэдняга слова; гэта, відаць, і зблытала Я. Карскага, які палічыў, што “все приведенные примеры очень напоминают собой описки”[19].

У займеньніках [**j**-o]*н*, [**j**-a]*на*, [**j**-a]*но* ёт разьвіўся паводле аналёгіі з формамі ўскосных склонаў – [**j**-a]*го*,

[10] На ўзор расейскае практыкі “інтэрнэт-пісьма”: замест **č** – **ch**, **š** – **sh**, **ž** – **zh**, а таксама замест **j** – **y**; замест **je**, **ie** – **e**; замест **h** – **g** і г. д., або, пад уплывам польскае графікі – дзеля той жа зручнасьці карыстаньня тым жа інтэрнэтам – фактычна вяртаньне да лацінкі 19 стагодзьдзя: замест **č** – **cz**, **š** – **sz**.

[11] Ненаціскны [**o**] у літаратурнай мове сустракаецца толькі ў фіналях абмежаванае колькасьці словаў іншамоўнага паходжаньня: *тры*[**jo**], *Токі*[**jo**].

[12] У шэрагу працаў адпаведны гук абазначаецца як [γ], а праз [**h**] абазначаецца іншы, блізкі фрыкатыўны гук, напр., у: Czekman Walery, Smułkowa Elżbieta. Fonetyka i fonologia języka białoruskiego z elementami fonetyki i fonologii ogólnej. Warszawa, 1988. Аднак мы ўжылі менавіта такі знак для большае нагляднасьці й захаваньня графічнага адзінства.

[13] Хоць спробы замацаваць адлюстраваньне ўстаўнога [**v**] на пісьме рабіліся неаднаразова: старабел. *оу****в*** *обороне* (XVI ст.; Булыко А. Н. Орфографическая система древней белорусской письменности: Автореферат… Минск, 1966. С. 14); у сучаснай мове: *U* ***w****astrozie* (< Багушэвіч Францішак>. Dudka Białaruskaja Macieja Buraczka. Kraków, 1891. Факсыміле: Мінск, 1990. С. 63), *koń u* ***v****atavie* (Losik Anton. Biełaruski pravapis. Miensk, 1943. S. 10, praviła 11.1; Моваведная канфэрэнцыя 1942 году // Запісы БІНІМ. 2005. № 28. С. 226); *Быў ув Адама* (Станкевіч Ян. Збор твораў. У 2 т. Т. 2. Менск, 2002. С. 376).

[14] Доказам таго, што у лексэме *цівун* гук [**в**] – эпэнтэза, можа служыць форма гэтага слова ў летувіскай мове: ti**j**ūnas, дзе ў якасьці “касавальніка зеўраньня” выступае ёт.

[15] Параўн. рыс. 18, 20, 22 у: Крывіцкі А. А., Падлужны А. І. Фанетыка беларускай мовы. Мінск, 1984. С. 42, 45, 47.

[16] Праўда, мяккія [**v’**] і [**h’**] значна бліжэйшыя да [**j**] (параўн. літаратурныя варыянты [**v’**-a]*прук* і [**j**-a]*прук*, падрабязьней гл.: Малько Р. М. Назіранні над зычнымі пратэзамі ў беларускай мове // Дыялекталогія і культура беларускай мовы: Тэзісы рэсп. навук.-практ. канф. Мінск, 1991. С. 106–107), а акустычныя ўражаньні ад [**h’**] і [**j**] амаль тоесныя, таму сталі магчымымі такія старабеларускія напісаньні, дзе блытаюцца абазначэньні гэтых гукаў: ***аи****товати* (Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Т. 1–. Мінск, 1982–. Т. 1. С. 85; далей ГСБМ), ***аи****ентъ* і ***аи****ентъ* (ГСБМ. Т. 1. С. 73), *м****аи****стратъ* (ГСБМ. Т. 17. С. 226), *Ізра****г****елевыхъ* – *Izra****h****elskjch* (Карский Е. Ф. Белорусы: Язык белорусского народа. Вып. 1. Исторический очерк звуков белорусского языка. Москва, 1955. С. 369).

[17] “[Д]ля старинных памятников <…> взята была орфография старославянская, не имевшая особого написания ни для *j*, ни для *ј*” [Карский Е. Ф. Белорусы. С. 302], таму Знак (̓) абазначаў ёт у старажытнагабрайскім і грэцкім пісьме, адкуль ён трапіў з тым жа значэньнем у кірыліцу.

[18] Карский Е. Ф. Белорусы. С. 306.

[19] Тамсама.

[**j**-а]*е*[20]. Аднак ува ўскосных склонах займеньніка *яны* гістарычна ёта не было, а ўзьнік ён ужо на беларускай глебе ў выніку дзеяньня тэндэнцыі (а ў дачыненьні пачатковага націскнога **í-** – закону) прыкрыцьця націскнога склада: [**j-а**]*ны*, бо [**j**]*іх*, [**j**]*ім*, [**j**]*імі*.

З пратэтычна-эпэнтычным ётам ня варта блытаць выпадкаў фанэтычнага захаваньня ёта ўтваральнай асновы ў становішчы перад суфіксальным ці флектыўным **і**: *да*[**j**]*іць*, *кра*[**j**]*іць*, *у ра*[**j**]*і*, *на ліні*[**j**]*і*.

Фанэтычнае выяўленьне прыстаўнога і ўстаўнога ёта ёсьць артаграфічнаю нормаю, нароўні з захаваньнем у вымове ёта асновы:

> Літара *і* ў пачатку слова звычайна абазначае спалучэнне *j(й)+і*. Так, у формах займеннікаў *іх*, *ім*, *імі*, *іхні* літара *і* перадае спалучэнне гукаў *j(й)+і*, г. зн. вымаўленне не супадае з напісаннем; вымаўляем: *да йіх*, *на йім*, *за йімі*, *у йіхняй* (хаце), *пасыпаліся йіскры*, *на рацэ Йіслач* (Іслач). Такое ж спалучэнне *ji* (*йі*) вымаўляецца ў сярэдзіне і на канцы слова пасля галоснага: *крайіна*, *ручайіна*, *свайіх*, *майіх*, *твайіх*, *чыйіх*, *райі* (множны лік ад *рой*), *гайі*[21].

Аднак на пісьме – як у кірыліцы[22], так і ў лацінцы[23] – ёт перад **і** традыцыйна не паказваецца, відаць, спачатку паводле правілаў стараславянскага пісьма, пазьней – пад уплывам расейскага й польскага правапісаў, бо вымаўленьне [**ji**] ў названых пазыцыях не адпавядае ні расейскай[24], ні польскай[25] артаэпічным нормам, а таму й не паказваецца на пісьме.

Але рэгулярнасьць узьнікненьня ёта не азначае яшчэ магчымасьці фармалізаваць гэты працэс. Адна зь перашкодаў – словы з прыстаўным *і*:

> У гэтых выпадках інтэрвакальны [*й*] не вымаўляецца: з[*аі*]мча́ць (заімчаць), з[*аі*]мшэ́ць (заімшэць), з[*аі*]рдзе́цца (заірдзецца), з[*аі*]ржаве́ць (заіржавець), з[*аі*]ржа́ць (заіржаць)[26]. Але большасць з гэтых форм не з'яўляецца для літаратурнай мовы тыповай, часцей ужываюцца адпаведныя дзеясловы, у якіх прыстаўны [*і*] знікае: замгліць, замчаць, замшэць, зардзецца, заржавець, заржаць[27].

Аднак тут жа аўтарка цьвердзіць адваротнае:

> Звяртае на сябе ўвагу ўзнікненне інтэрвакальнага [*й*] нават і ў тых словах, дзе ненаціскны [*і*] генетычна прыстаўны: за[*йі*]льсніцца (заільсніцца), за[*йі*]рдзець (заірдзець), па[*йі*]мжыць (паімжыць), па[*йі*]мчацца (паімчацца). Існуе агульная тэндэнцыя да знікнення спалучэння [*аі*] ў гутарковым маўленні[28].

Прытым дасьледніца ўважае за прынятае наступнае вымаўленне: *з*[аі]*нвентарызаваць*, але *па*[йі]*нфармаваць*, *па*[йі]*дыёцку*, *па*[йі]*ндыйску* і пад. І для завяршэньня палітры:

> Пераадоленне зіяння зычных унутры слова шляхам ётацыі – тэндэнцыя, якая аб'ядноўвае беларускую мову з украінскай. Арфаэпія абедзвюх моў рэгламентуе ўжыванне [*й*] у такіх словах, як ды[*йе*]та (дыета), ды[*йе*]з (дыез), маза[*йі*]ка (мазаіка)... Таму адзначаныя выпадкі ўжывання гэтых слоў без [*й*] як у беларускай, так і ва ўкраінскай мове – парушэнне норм, выкліканае рускім уплывам[29].

### 1.2. Спробы кадыфікацыі адлюстраваньня ёта

Пра важнасьць дакладнага адлюстраваньня **ji** сьведчыць факт існаваньня адмысловае літары – **ї**: з кірылічных – ува ўкраінскай, з лацінічных – у францускай, партугальскай, брэтонскай, каталанскай і ў інданэзійскай мове мінангкабаў[30]. Фанэтычнае напісаньне спалучэньня [**ji**] мае месца таксама ў ангельскай (***yi**eld* [**ji**:ld]), нямецкай (***ji**ddisch*), нідэрляндзкай (***ij***), чэскай (***ji**zdenka*, ***Ji**ří*), славацкай (*sto**jí***, *zau**jí**mavý*), славенскай (*gno**ji**šče*, *me**ji**ti*), летувіскай (***ji**s*, *būgni**ji**mas*), латыскай (*Rū**ji**na*) ды шэрагу іншых моваў.

Яшчэ ў 1925 годзе Язэп Лёсік, у межах крытыкі Тарашкевічавае "Беларускае граматыкі для школ", зьвяртаў увагу на напісаньне такіх словаў, як *хваінка*, *поіць*, *краі*, *звычаі*:

> дзе пасьля галоснага перад зычным стаіць складовае **і**. Гэта аб'ясьняецца недакладнасьцю нашага кірылічнага пісьма. Правільна, паводле гукавога пісьма, такія словы трэба запісаць так: *хвайінка*, *пойіць*, *крайі*, *звычайі*. Такім парадкам, складовае **і** стаіць тут паміж зычнымі, на сваім законным месцы. У такіх словах, як "хваінка, поіць, краі", аснова канчаецца на нескладовае "й", а далей ужо йдуць суфіксы або флексіі[31].

Праўда, Я. Лёсік так і "не замахнуўся" на адлюстраваньне ўстаўнога й прыстаўнога ёта, хоць прызнаваў іх існаваньне[32]. Зь ягонай ініцыятывы пытаньне абмяркоўвалася на Акадэмічнай канфэрэнцыі 1926 году[33].

Лёсікава прапанова не зрэалізавалася ў Савецкай Беларусі, аднак была пачутая ў Заходняй: яе падтрымаў на тэарэтычным узроўні Ян Станкевіч і ён жа

---

[20] Тамсама. С. 304.; Лёсік Язэп. Граматыка беларускае мовы. [Часьць 1-ая]. Фонэтыка. Менск, 1926. С. 86. § 91.

[21] Янкоўскі Ф. Сучасная беларуская мова. Мінск, 1984. С. 39.

[22] Праўда, у лексыцы іншамоўнага паходжаньня некаторыя прэцэдэнты ўжо ёсьць: *Лонгйір* (Беларуская энцыклапедыя. У 18 т. Т. 11. Мінск, 2000. С. 154, мапа "Шпіцберген"), *Саранды-дэль-**Йі*** (Беларуская энцыклапедыя. Т. 16. Мінск, 2003. С. 255, мапа "Уругвай").

[23] Пра адхіленьні ад такое практыкі гутарка будзе ніжэй.

[24] "Обычно без [j] произносятся формы местоимений [мАи́], [твАи́], [свАи́]… В инфинитиве и личных формах глаголов *кроить*, *доить*, *поить*, *гноить* и др. … перед [и] фонема [j] не произносится: [крАи́т'], [дАи́т'], [гнАи́т'], [пАи́т']…" (Аванесов Р. И. Фонетика современного русского литературного языка. Москва, 1956. С. 190).

[25] "Wymowa rozpoczynającego wyraz *i* jako *ji* jest wymową regionalną, np. igła (*wym. reg.* jigła)" (Słownik poprawnej polszczyzny / Red. naczelny W. Doroszewski. Warszawa, 1980. S. 208; далей SPP), інакш кажучы, праява крэсовасьці; ня выключана, што гэта фанэтычны беларусізм. Прыклады з SPP: "choina (*wym.* cho-ina, *nie*: chojna)" (s. 74), "Kraina (*wym.* Kra-ina)" (s. 272).

[26] Такое вымаўленьне кадыфікуецца ў: Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / Пад рэд. М. В Бірылы. Мінск, 1987 (далей СБМ). С. 245, 246.

[27] Выгонная Л. Ц. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія. Мінск, 1991. С. 197.

[28] Тамсама.

[29] Тамсама. С. 198.

[30] Гиляревский Р. С, Гривнин В. С. Определитель языков мира по письменностям. Изд. 3, исправл. Москва, 1964. С. 299, 304.

[31] Лёсік Я. Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу // Полымя. 1925. № 2 (22). С. 130–148. Цыт. паводле: Лёсік Язэп. 1921–1930: Зб. тв. / Уклад., прадм. і камент. А. Жынкіна. Мінск, 2003. С. 178.

[32] Тамсама. С. 44–45, 50, § 41, 44.

[33] Працы Акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14–21 лістапада 1926 г.). Менск, 1927. С. 121.

зрэалізаваў “ётацыю” на пісьме – у кірылічных тэкстах 1930–1931 гадоў у часопісе “Родная мова”, у пазыцыі пасьля галосных: *ма**ј**іх*, *па**јі**ць*[34]).

Але на лацінкавай глебе першае ведамае нам напісаньне **ji** зьявілася крыху раней – у 1929 годзе ў “Lemantary” Станіслава Любіч-Маеўскага[35]: ***ji**skra* (s. 29), ***ji**m* (s. 29, 101), *swa**ji**m* (s. 69), *sta**ji**ć* (s. 101), ***ji**ch*, *żnie**ji*** (s. 102), але непасьлядоўна, напрыклад: *nadzie**i*** (s. 103)[36], сустракаюцца й гіпэрызмы: ***ji**mhła* (s. 29), ***ji**ści* ‘іසьці’ (s. 101).

Упершыню “правіла ётацыі” было сфармуляванае менавіта ў лацінкавай кадыфікацыйнай літаратуры[37] – у “Biełaruskim pravapisie” аўтарства Язэпавага старэйшага брата Антона Лёсіка:

> Pradmietniki <nazoŭniki> u miesnym skłonie adzinočnaha liku majuć kančatki: <…> 3) **-i** majuć pradmietniki usich rodaŭ z asnovaju na miakki zyčny, a u mužčynskim rodzie i na **-j**: <…> **kraj** – u **kraji**, **Dunaj** – na **Dunaji**, **haj** – u **haji**, **zvyčaj** – ab **zvyčaji**…”[38] (s. 23–24, praviła 38; тамсама ў ілюстрацыі: *chvo**ji*** (s. 61, praviła 5.6)).

Аднак інэрцыя правапісу **i** аказалася настолькі моцнаю, што аўтар[39] не пайшоў далей за назоўнік, і ў дзеяслове азначанага прынцыпу не датрымаўся: *po**i**ć* (s. 8, praviła 9), *sta**i**ć* (s. 8, 18, 43, 60, 61, pravіły 9, 28, 92, 5.1, 5.4, 5.6), *uzbro**i**ć* (s. 42, praviła 88). Пагатоў не пачаў адлюстроўвацца й пратэтычны ды эпэнтычны ёт: *z(a)* ***i**m* (s. 30, 31, 46, pravіły 51, 57, 106), ***i**ch* (s. 58, praviła 1.3), ***i**mi* (s. 58, praviła 1.1), ***i**chny*, ***i**chnaha*, ***i**chnamu*, ***i**chnym* (s. 37, praviła 74); *archa**i**čnaja* (s. 34, praviła 66). Праўда, спалучэньне **ji** сустракаецца ў іншых словах: *sałaŭ**ji*** (s. 8, 18, pravіły 10, 28), *vierab**ji***, *siem**ji*** (s. 18, praviła 30), *dziejaprysloŭ**ji*** (s. 61, praviła 5.6), дзе **j** пішацца пасьля зычных.

### 1.3. Адлюстраваньне ёта на пісьме як масавая зьява

У пасьляваенны пэрыяд “ётацыя” пачала праводзіцца ў лацінкавых тэкстах усё больш і больш пасьлядоўна, вось толькі назовы выданьняў, дзе мы спатыкаем спалучэньне **ji**[40]: “Biełaruskaje Cantralnaje Pradstaŭnictva Suśvietnaj Emihracy**ji**” (Regensburg, 25.7.1949. № 847, 848), “Fond BNR. Pradstaŭnictva ŭ Paŭnočnaj Amerycy. Pastanova VII-aj sesy**ji** Rady BNR z dnia 14 lutaha 1954 ab apadatkavańni Rady BNR” (Stamford, Conn., July 1954. № 1228), “Uładysłaŭ Jermakovič Ryžy-Ryski. Pasłańnie Refarmacy**ji** da Usiaho Śvietu i da Hispani**ji**. Relihijna-Sacyjalnaja Kanferencyja danaja aŭtaram u Kaściole Jezusa ŭ Madrydzie 31 kastryčnika 1957 hodu” ([Princeton], 1960; № 1746).

Спалучэньне **ji** зьявілася ўва **ўсіх** лацінкавых тэкстах даўняга прыхільніка “ётацыі” Я. Станкевіча, і ня толькі ў тых, дзе ён выступаў як аўтар, але і ў тых, якія ён рэдагаваў і выдаваў, напрыклад[41]: ***ji**nšym*, *supako**ji**ć* (s. 5), *nadzie**ji*** (s. 17). Пасьлядоўным прыхільнікам азначанага напісаньня выявіў сябе Язэп Гладкі (як мовазнавец выступаў пад псэўданімам Адам Варлыга); у шматлікіх лацінкавых выданьнях (у сваім выдавецтве “Zaranka” ён друкаваў пераважна лацінкаю) Гладкі цьвёрда праводзіў “ётацыю”: спачатку ў дачыненьні ёта асновы[42]: *uzbro**ji**ŭsia* (s. 17), *šy**ji*** (s. 20), *ma**ji**ch* (s. 23), але *im*, *imi* (s. 15), аднак пазьней – таксама ў дачыненьні пратэтычнага ды эпэнтычнага ёта, напрыклад[43]: ***ji**chnyja*, ***ji**m* (s. 4). Напісаньне **ji** зьявілася і ў каталіцкіх выданьнях – па вызначэньні больш кансэрватыўных, у тым ліку з гледзішча графікі[44]: *Brytani**ji*** (s. 288), *Pomponi**ji*** (s. 88).

У 1966 годзе Язэп Гладкі прысьвяціў абгрунтаваньню графічнае рэалізацыі [**ji**] разьдзел “Našy dva šryfty – kirylica j łacinka” ў сваёй ці не адзінай тэарэтычнай працы “Praktyčnyja naziraŕni nad našaj žyvoj movaj”[45] .

Трэба адзначыць, што і Станкевіч, і Гладкі ўвялі ёт нават там, дзе яго вымаўленьне пярэчыць фанэтычным і артаэпічным падставам літаратурнае мовы – перад ненаціскным пачатковым: ***ji**mknieńnia*, ***ji**miennaja*[46]; ***ji**dzie*[47] (s. 8, 12, <punkty> 12, 21), ***ji**šli* (s. 21, <punkt> 54), ***ji**hry* Р. скл., ***ji**mieńniaŭ* (s. 19), нават: ***ji**z aboraj* (s. 21, <punkt> 54); ***ji**hlíca*, ***ji**hrýšča*, ***ji**snaváć*, у тым ліку перад прыстаўным: ***ji**skrypki*[48] (s. 18, <punkt> 38), ***ji**llánišča*, ***ji**llány*, ***ji**mšara*, ***ji**mžéć*, ***ji**ržá*, ***ji**zrúb*, ды ў пазычаньнях: ***ji**mpét*[49] (s. 47), ***ji**ntéras* (s. 48), з чым згадзіцца мы ніяк ня можам, грунтуючыся на меркаваньнях, сутнасьць якіх выкладзеная намі ў п. 1.1.

З аднаўленьнем лацінкавае практыкі ў Беларусі ў большай ці меншай ступені пачала практыкавацца й “ётацыя”, найперш на старонках газэты “Наша Ніва”: *dyjaceziji*, *nastrojiŭ*, *ź jinšymi*[50], *narajiŭ*, *rečajisnaść*,

[34] Станкевіч Ян. Збор твораў. Т. 1. Менск, 2002. С. 541–543.

[35] Lubicz-Majeŭski Stanisłaŭ. Lemantar. Lwoŭ, 1929.

[36] На непасьлядоўнае напісаньне – то *jich*, то *ich* – зьвярнуў увагу яшчэ Я. Станкевіч у сваёй рэцэнзіі на “Lemantar” (Станкевіч Ян. Збор твораў. Т. 1. С. 111).

[37] Трэба адзначыць, “Biełaruski pravapis” быў усяго другім (пасьля Тарашкевічавай “Biełaruskaj hramatyki dla škoł”) і апошнім кадыфікацыйным выданьнем лацінкаю, таму мы больш падрабязна прааналізавалі гэтую працу.

[38] Losik Anton. Biełaruski pravapis.

[39] Калі быць дакладным, у рыхтаваньні “Biełaruskaha pravapisu”, як вынікае з прадмовы, бралі ўдзел таксама Антон Адамовіч і Канстанцін Шкуцька.

[40] Нумарацыя паводле: Кіпелі Зора і Вітаўт. Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе: Асобныя выданьні. Нью Ёрк; Менск, 2003.

[41] Kvietka Vitan. Lavon Vitan-Dubiejkaŭski: Da 85 uhodkaŭ naradžeńnia. New York, 1954.

[42] J. H-i. Rycar Dabravid: Kazka: Pavodle narodnaj tematyki. Watenstedt, 1949.

[43] J. H. Dla małych dzietak: Dziciačy falklor. New York, 1965.

[44] Sieńkievič H. Quo vadis? / U bielaruskim pierakladzie x. Dr. P. Tatarynoviča. Rym, 1956.

[45] Varłyha Adam. Praktyčnyja naziraŕni nad našaj žyvoj movaj. New York, 1970. S. 26–32.

[46] Станкевіч Ян. Збор твораў. Т. 1. С. 81.

[47] J. H. Dla małych dzietak…

[48] *Ibid.*

[49] Varłyha Adam. Krajovy Słoŭnik Łahojščyny = Regional Dictionary of Lahojsk. New York, 1970.

[50] Sidarevič Anatol. Pijanerskaja praca // Наша Ніва. 2006. № 3. 20 студзеня.

*tra**j**ich*[51], *za **j**im*, *sery**ji***[52], *Čechi**ji***, *atrakcy**ji***[53]. Аднак цьвердзіць, што такое напісаньне ўтрывалілася, стала нормаю, было б перабольшаньнем.

### 1.4. Pro et contra

Пачнем з ***contra***: супраць пазначэньня ёта перад **і** прамаўляе:

а) доўгая традыцыя. АДНАК 1: гэтая традыцыя склалася пад уплывам іншых моваў, якім адпаведная фанэтычная зьява не ўласьцівая. АДНАК 2: адзінства ў перадаваньні [**ji**] у лацінкавых тэкстах ужо няма больш за 60 (!) гадоў, а рэальна існуе графічны дуалізм;

b) прыстаўны ёт можа зьнікаць і ўзьнікаць – у залежнасьці ад націску, што зьмяняе аблічча слова (асабліва самай інфарматыўнай яго часткі – пачатку) і разносіць аднакаранёвыя словы па розных літарах у абэцэдзе: ***I**rýna*, але ***J**írka*. АДНАК 1: гэтыя меркаваньні нас не бянтэжаць, калі гутарка пра паказваньне на пісьме прыстаўнога [**v**] перад **o**: ***v**ohnišča*, але ***a**hoń*, дзе зьмена візуальна значна больш адчувальная й большы “разьлёт” пры разьмеркаваньні па альфабэце, асабліва ў лацінцы (літара **a** – на пачатку альфабэту, **v** – амаль у канцы). Тое ж можна сказаць пра выпадкі зь іншымі прыстаўнымі: *леў* – ***і**львіца* таксама “разнесеныя” па слоўніку. АДНАК 2: як ужо адзначалася, прыстаўны ёт разьвіваецца **толькі** перад націскным пачатковым **і**, колькасьць лексэмаў у літаратурнай мове зь [**ji**] на пачатку слова не перавышае колькіх дзясяткаў, бальшыня зь іх – вельмі нізкачастотныя пазычаньні. Такім чынам, пратэтычная “ётацыя” закране надта вузкае кола выпадкаў, апроч выпадкаў з займеньнікамі ***j**any* (ускосныя склоны), ***ji**chny*, ***ji**nšy*;

c) правіла “ётацыі” даволі складанае, патрабуе пэўных лінгвістычных ведаў і досьведу. АДНАК 1: яно не складанейшае за шэраг іншых правілаў правапісу, да прыкладу, артаграмаў, якія рэгулююць правапіс дзеяслоўных формаў. АДНАК 2: правіла напісаньня пратэтычнага ёта ўжо сфармуляванае ў сучаснай нармалізацыі клясычнага правапісу:

> Перад пачатковым ненаціскным **і** прыстаўны [**й**] не разьвіваецца, таму ў прыназоўніках перад ім **з** не памякчаецца: ***з** ідэяй* [**з** ыдэ́йай], *бе**з** іголкі* [б’э**з** ыго́лк’і], *пра**з** імглу* [пра**з** ымглу́], *цера**з** ільды* [ц’эра**з** ыл’ды́][54].

АДНАК 3: яно ўмацоўвае сыстэмнасьць правапісных умецтваў (“навыков”);

d) “ётацыю” немагчыма фармалізаваць, а значыць, і аўтаматызаваць. АДНАК 1: бальшыню артаграфічных правілаў гэтаксама немагчыма фармалізаваць; што ж да аўтаматызацыі, то патрэба ў ёй узьнікае толькі пры машынным перакладзе з кірыліцы на лацінку, аднак і пры такім заданьні яна магчымая: каб аўтаматызаваць напісаньне пратэтычнага ёта дастаткова: або (1) праставіць акцэнтуацыю, або (2) увесьці сьпіс выпадкаў “ётацыі”. АДНАК 2: напісаньне эпэнтычнага ёта й ёта ўтваральнай асновы фармалізуецца абсалютна лёгка: пасьля любога галоснага ў межах графічнага слова (апроч невялікай групы складаных словаў: *гука**і**заляцыя* – *huka**i**zalacyja*);

e) парушаецца адзінства паміж кірылічным і лацінкавым пісьмом. АДНАК: абсалютнага адзінства й без таго няма (ніжэй мы пакажам гэта на прыкладзе правапісу **g** і **h**);

f) закон эканоміі моўных сродкаў, у нашым выпадку графічных: узьнікае дадатковая, “лішняя” літара. АДНАК: “ётацыя” падтрымлівае найважнейшы прынцып “ідэальнай” графікі: адзін гук – адна літара.

Цяпер ***pro***. Вышэй, у групе *contra*, мы фактычна падалі ўжо 10 аргумэнтаў “за”, вось наступныя.

Напісаньне **ji**:

11) падтрымлівае агульную зарыентаванасьць беларускага правапісу на фанэтызм, асабліва калі гутарка ідзе пра вакалізм, пагатоў пра адлюстраваньне аляфонаў фанэмы /**і**/ → [**і**]–[**ы**]–[**й**]–[**йі**], таксама **і** можа чаргавацца з $\phi$ (нулём гуку):

/**і**/ → [**і**] ***і**мя*
/**і**/ → [**ы**] *без**ы**менны*
/**і**/ → [**й**] *за**й**меньнік*
/**і**/ → [**йі**] [**й**]*і́мі* ‘імёны’
/**і**/ → $\phi$ *мяно*

Як бачым, усе рэалізацыі /**і**/, апроч [**йі**], адлюстроўваюцца на пісьме.

12) спрыяе захаваньню артаэпічнае нормы, якая ў нашым выпадку рэгулярна не выконваецца;

13) у выпадку з пратэзаю **j** дазваляе фармалізаваць і аўтаматызаваць пазначэньне мяккасьці ў прыназоўніках на **z** (**z**, **biez**/**biaz**, **cieraz**, **praz**): ***ź j**imi*, *bia**ź j**iskry*, *ciera**ź j**iniej*, *pra**ź j**ikaйкu*;

14) у выпадку зь ётам утваральнай асновы – спрыяе дасягненьню дыдактычных мэтаў: фіналь асновы робіцца відавочнаю й не зьмяняецца ў залежнасьці ад таго, які галосны ідзе пасьля [**j**]. Гэтая ўласьцівасьць лацінкавага пісьма адзначалася яшчэ ў Тарашкевічавай граматыцы:

> Каб выразьней прадставіцьканчаткі скланеньня посьле мягкага зычнага і прадметнікаў на й, можна напісаць лацініцай так: <…> wierabiej, wierabj-a, wierabj-u, wierabj-om, wierabj-i і г. д.[55]

Дарэчы, значэньне нагляднасьці пры пазначэньні ёта асновы для навучальных мэтаў, асабліва пры марфэмным разборы, акцэнтаваў Язэп Гладкі, прафэсійны пэдагог, выкладчык беларускае мовы[56].

15) мае праводзіцца й з пурыстычных меркаваньняў, бо гэта кантрастыўная рыса беларускае мовы на фоне расейскае й польскае.

[51] Sidarevič Anatol. Šancavańnie Kastusia Charaševiča // Наша Ніва. 2006. № 4. 27 студзеня.

[52] Sidarevič Anatol. Dźvie knihi // Наша Ніва. 2006. № 7. 17 лютага.

[53] RR. Narodžanyja grantavaj systemaj… // Наша Ніва. 2004. № 21. 4 чэрвеня.

[54] Беларускі клясычны правапіс: Збор правілаў: Сучасная нармалізацыя. Вільня; Менск, 2005. С. 49. Артаграма 29. Заўвага А.

[55] Тарашкевіч Б. Беларуская граматыка для школ. Выд. 5, перапрацоўленае і пашыранае. Вільня, 1929. С. 72. § 16. Увага 2.

[56] Varłyha Adam. Praktyčnyja nazirańni... S. 28–31.

## 2. Правапіс *g* і *h*

### 2.1. Выбухныя гукі [g] і [g’] у беларускай мове

З асноўнага выданьня ў галіне сучаснай беларускай фанэтыкі даведваемся, што:

> змычны [g] <…> сустракаецца ў невялікай колькасці запазычанняў з польскай і літоўскай моў, а таксама ўзнікае ў выніку асіміляцыі па звонкасці [к]: *ва*[g]*зал*, *па*[g]*гауз*[57].

На жаль, аўтары працы праігнаравалі той факт, што [**g**] спатыкаецца і ў вялікай групе пазычаньняў на **экз-** (у СБМ – 40 лексэмаў!)[58], і ўва ўласнабеларускай лексыцы, на што зьвярнуў увагу яшчэ Я. Карскі:

> Перемены, которым подвергся *г* на белорусской почве, следующие: (а) Переход его в некоторых положениях в *g*. Это в группе *зг*, где явно слышится звук очень близкий к *g*: ро́зgи, мазgи́, мизgа́, ре́зgины[59].

Факту наяўнасьці згаданага гуку ўва ўласнабеларускай лексыцы не абмінулі й беларускія граматысты Браніслаў Тарашкевіч[60], Язэп Лёсік[61], Ян Станкевіч[62]. У нейкай ступені ён адлюстроўваўся яшчэ ў старабеларускай мове, напрыклад: *бразкати*, *бразкъ*[63], *брязкати*, *брязкъ*[64], ***мозекъ***, ***мозкгъ***, ***мозкъ***, ***мозокъ***, ***москъ***[65].

Аднак, пачынаючы з 1930-х гадоў, у БССР вакол гуку [**g**] і асабліва спэцыфічнае літары **ґ** (“ге”)[66], якою гэты гук перадаваўся яшчэ з 17 стагодзьдзя (!)[67], – утвараецца атмасфэра замоўчваньня: за гукам [**g**] прызнаецца права гучаць толькі ў шэрагу пазычаньняў; што да літары **ґ**, то яна зьнікае і з альфабэту, і з тэкстаў, а пры патрэбе абазначыць менавіта выбухны выкарыстоўваюцца розныя “абходныя” спосабы: курсіўнае напісаньне, паўтоўстае напісаньне, знакі **г’**, **г´** ды інш., але ніяк не адмысловая літара.

Якая прычына ігнараваньня гуку [**g**] ува ўласнабеларускай лексыцы? Неразумнае спрашчэнства? (“Навошта рабіць выключэньне для колькіх словаў!”) Крыва зразуметы пурызм? (“Гук [**g**] ёсьць і ў расейскай, і ў польскай мовах, а ў беларускай – толькі [**h**]!”) Дазволім сабе зрабіць прыпушчэньне, што пэўную ролю адыграў і палітычны аспэкт. Што да ўжываньня літары **ґ**, то, на нашую думку, тут палітычныя меркаваньні былі ці не асноўнымі: выключэньне **ґ** кладзецца ў агульнае рэчышча русіфікацыі[68], тым больш што гэтая літара выкарыстоўвалася і ўва ўкраінскай мове, дзе яе напаткаў падобны лёс[69]; праўда, у постсавецкую эпоху ўва Украіне адбылася “рэгабілітацыя” літары **ґ** і яе вяртаньне ў актыўны ўжытак[70].

У выніку ігнараваньня азначанага моўнага факту школьнаю праграмаю, якая й фармуе падставовыя сыстэмныя ўяўленьні сярод шырэйшых колаў, бальшыня паспалітых носьбітаў мовы не ўсьведамляе таго, што ў беларускай літаратурнай мове існуе пара выбухных гукаў – цьвёрды [**g**] і мяккі [**g’**], хоць носьбіты больш ці менш пасьлядоўна вымаўляюць іх.

Такім чынам, гукі [**g**]/[**g’**] вымаўляюцца ў наступных выпадках:

1) ва ўласнабеларускай лексыцы – у каранёвых спалучэньнях [z**g**], [ž**g**], [d͡z**g**], [d͡ž**g**]: напр., *абрыз*[**g**]*лы*, *браз*[**g**]*аць*, *брыз*[**g**]*ліна*, *варыз*[**g**]*аць* ‘вярзьці абы-што’[71], *воз*[**g**]*ры*, *вэдз*[**g**]*аць*, *дж*[**g**]*аць*, *дж*[**g’**]*ір*, *маз*[**g’**]*і*, *мяз*[**g**]*а*, *ныз*[**g**]*ры* ‘каровіна пыса’[72], *плявуз*[**g**]*аць*, *роз*[**g’**]*і*, *сьліз*[**g**]*аць*;

2) у шэрагу словаў іншамоўнага паходжаньня: [**g**]*анак*, [**g**]*арнец*, [**g**]*арсэт*, [**g**]*валт*, [**g**]*зымс*, [**g**]*онта*, [**g**]*узік*, *а*[**g**]*рэст*, *ма*[**g’**]*ерка*, *цу*[**g**]*лі*, *шва*[**g’**]*ер* ды некаторых інш.;

3) у выклічніках, гукаперайманьнях, іншых непаўназначных словах: [**g’**]*ер*[**g’**]*етаць*, ***ga-ga***[73];

4) таксама цьвёрды [**g**] узьнікае ў выніку азванчэньня (рэгрэсіўнай асыміляцыі па звонкасьці) [**k**] → [**g**] у становішчы перад звонкім зычным наступнай асновы (у этымалягічна складаных словах іншамоўнага паходжаньня) або слова: *мар*[**g**]*граф*, *я*[**g**] *баба*, *на кро*[**g**] *далей*.

Наколькі можна меркаваць па пісьмовых помніках, прыблізна ў такіх жа ўмовах існавалі [**g**]/[**g’**] і ў старабеларускай мове. Што важна, [**g**] адрозьніваўся на пісьме ад [**h**] і яшчэ з 14 стагодзьдзя[74] перадаваўся праз асобны

[57] Крывіцкі А. А, Падлужны А. І. Фанэтыка беларускай мовы. С. 44.

[58] Паводле Л. Выгоннай з выбухным вымаўляюцца наступныя словы: [**g**]*аза*, [**g**]*антэль*, [**g**]*арсэт*, [**g’**]*ільза*, [**g’**]*ірса*, [**g’**]*естка*, [**g**]*уз*, *смара*[**g**]*д*. Гл. Выгонная Л. Ц. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія. С. 203.

[59] Карский Е. Ф. Белорусы. С. 370.

[60] Taraškiéwič B. Biełaruskaja hramatyka dla škoł. Wilnia, 1918, ды ў наступных выданьнях кнігі.

[61] Лёсік Язэп. Граматыка беларускае мовы.

[62] Станкевіч Я. Падручнік крывіцкае (беларускае) мовы = Krivian (Whiteruthenian) Grammar: Граматыка, правапіс, укладаньні прытарнаваныя вучыцца ў школе й дома. Ч. I–III. Рэгенсбурґ, 1947.

[63] ГСБМ. Т. 2. С. 186.

[64] Тамсама. С. 228.

[65] Тамсама. Т. 18. С. 122.

[66] Паходзіць з курсіўнага напісаньня грэцкае літары ***Γ γ*** (“гама”), дзе не было асобнай графэмы для [**g**], бо, як і ў мове беларускай, асноўны задненязычны звонкі гук – фрыкатыўны [**h**], нездарма для яго адлюстраваньня гама часам выкарыстоўваецца ў транскрыпцыі.

[67] Карский Е. Ф. Белорусы. С. 370; Булыка А. М. Развіццё графічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мінск. 1970. С. 46.

[68] На думку Я. Станкевіча: “Беларуская Акадэмічная Конфэрэнца ў Менску 1926 г. пастанавіла ўжываць літару “ґ” усюдых у чужых словах, дзе вымаўляецца гук ёю абзначаны. Адылі маскоўская ўлада забараніла ўжыцьцёвіць гэтую пастанову, каб беларуская абэцада ня розьнілася ад маскоўскай, у каторай ё адна літара “г”. Гл.: Станкевіч Я. Збор твораў. Т. 2. С. 29.

[69] Rudnyćkyj J. B. Ґ – a priscribed letter in the Sovet Union = Ярослав Рудницький. Ґ – проскрибована буква в СССР. Winnipeg, 1970. (Slavistica; № 67–68.)

[70] Літара **ґ** (“дигама”) “зьнікла” з украінскага альфабэту ў выніку рэформы 1933 году й “вярнулася” ў 3-м выданьні “Українського правопису” 1990 году.

[71] Varłyha Adam. Krajovy Słoŭnik Łahojščyny...

[72] Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т. Мінск, 1979–1986 (далей СПЗБ). Т. 3. С. 238.

[73] J. H. Dla małych dzietak. S. 14, <punkt> 26.

[74] Карский Е. Ф. Белорусы. С. 369.

дыграф **кг**[75]: *мозкгъ*[76], *кганокъ*[77], *кгарнецъ*[78], *кгвалтъ*[79], *кгонтъ*[80], *кгузикъ*[81], *макгерка*[82], *цукгли*[83], *швакгер*[84]. Праўда, гук [**g**] у пазычаньнях пазначаўся ў незраўнёна большай колькасьці лексэмаў, чымся шэраг словаў у сучаснай беларускай мове, у якіх замацавалася вымаўленьне праз [**g**].

У старабеларускай лацінцы дыграф часам трансьлітараваўся з кірылічнага напісаньня **кг** → **kh**: ***Kh****otski* 'гоцкі' (Прывілей Жыгімонта III Вазы месту Віцебскаму на магдэбурскае права 1597 г.[85]), аднак часьцей пісалася літара **g**: *Żygimont*[86].

У самым вялікім старабеларускім тэксьце лацінкаю, "Хроніцы Быхаўца", ёсьць і **h** і **g**: праз **h** пішуцца ***H****leb*, *Mindo(w)****h***, праз **g** (= **kh**) – *An****g****liju*, ***G****imbut* = ***G****inbut*, ***G****inwił*, ***G****rumpia* = ***Kh****rumpia*, *Min****g****ayło*, *Ryn****g****olt*.

"Biełaruskaja hramatyka" Тарашкевіча 1918 году й яе варыянт 1931 году ўтрымлівалі абедзьве літары – і **h**, і **g**[87]: ***g****anak*[88]. Таксама пэўнае месца займае **g** у "Biełaruskim pravapisie" Антона Лёсіка[89]: *Lon****g****felo* (s. 42, praviła 132). Праўда, **g** выглядае троху нелягічным у *ma****g****istar* (praviła 127) на фоне **h** у *etymalo****h****ična* (s. 8, 15, 16), ***h****iea****h****rafičny* (s. 3), ***h****ramatyka*, ***H****ry****h****or*, *I****h****nat* (s. 24), *idealo****h****ija* (s. 6), *morfalo****h****ičny* (s. 20), *Vol****h****a* (s. 10) і нават у *feni****h*** 'пфэніг' (s. 22) < ням. *Pfenni****g*** і *ce****h****ła* (s. 5, 10), у якім нават СБМ прызнае за норму толькі выбухное вымаўленьне **г**, як і ў аднакаранёвых: *ца*[**g'**]*ельнік*, *ца*[**g'**]*ельніца*, *ца*[**g'**]*ельны*, *ца*[**g'**]*ельня*, *ца*[**g**]*лін(к)а*, *ца*[**g**]*ляны*, *цэ*[**g**]*ліна*[90].

Выключэньне складаюць тэксты Я. Станкевіча, які і ў лацінкавых тэкстах пакідаў зыходны **g** у апэлятывах-пазычаньнях: *filolo****g****ija*, ***g****ieografičny*, *inteli****g****ient*, *lin****g****vistyčny*; *Reli****g****iji*[91], *ŭ* ***g****imnazi*[92].

[75] Дыграф **кг** паходзіць з грэцкае мовы – **κγ**, у навагрэцкай мове парадак літараў у гэтым спалучэньні адваротны – **γκ**.

[76] ГСБМ. Т. 18. С. 122.

[77] Тамсама. Т. 15. С. 30.

[78] Тамсама. С. 32.

[79] Тамсама. С. 38.

[80] Тамсама. С. 56.

[81] Тамсама. С. 69.

[82] Тамсама. Т. 17. С. 229.

[83] Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мінск, 1972. С. 352.

[84] Тамсама. С. 361.

[85] Витебская старина / Сост. и изд. А. П. Сапуновъ. Т. 1, 4, 5. Витебскъ, 1883–1888. Т. 1.

[86] Тамсама.

[87] Taraškiéwič B. Biełaruskaja hramatyka dla škoł. Wilnia, 1918; Taraškiéwič B. Biełaruskaja hramatyka dla škoł. Wilnia, 1931. S. 8, 12, 13, § 2, 6, 7.

[88] Taraškiéwič B. Biełaruskaja hramatyka dla škoł. Wilnia, 1931. S. 10, § 3.

[89] Losik Anton. Biełaruski pravapis. S. 11. <Punkt> 9.

[90] СБМ. С. 857, 864.

[91] Kvietka Vitan. Lavon Vitan-Dubiejkaŭski. S. 5.

[92] *Ibid.* S. 6. Відаць, такі падыход да разьвязаньня праблемы **g**/**h** склаўся ў Я. Станкевіча пад уплывам чэскае мовы, дзе ўласная лексыка ўжываецца з **h**, а пазычаньні (там, дзе гэта этымалягічна абгрунтавана) – з **g**.

У лацінкавых тэкстах зь цяперашняе "Нашае Нівы" сустракаем самыя розныя рэалізацыі **g** і **h**: ***g****vałtam*[93], ***g****rantavaj*, *imi****g****rantaй*, *lozun****h****ami*, ***g****ieta*[94].

Паводле сучаснае нармалізацыі клясычнага правапісу, гук [**g**] можа (але ня мусіць!) пазначацца на пісьме літараю **ґ** выключна ўва ўласных назовах іншамоўнага паходжаньня: ***Ґ****аза*, ***Ґ****амбія*, ***Ґ****ітлін*, *А****ґ****ра*, *Арлін****ґ****тан*, *Рэдын****ґ*** нароўні з ***Г****аза*, ***Г****амбія*, ***Г****ітлін*, *А****г****ра*, *Арлін****г****тан*, *Рэдын****г***[95].

Такім чынам, літары **ґ** у сучаснай беларускай кірылічнай графіцы (1) афіцыйнага правапіснага стандарту няма, (2) у клясычным правапісным стандарце яна мае статус факультатыўнай, затое ў лацініцы **g** – літара "абавязкавая". Таму безь яе не абыходзілася бадай ніводнае лацінкавае выданьне.

### 2.2. Літары *g* і *h* у апэлятывах

Ужываньне літары **g** ніводным з лацінкавых нарматыўных ці дыдактычных выданьняў не кадыфікавалася, але практыка яе выкарыстаньня ў лацінкавых тэкстах далёка не хаатычная. Такім чынам, падаем асноўныя прынцыпы правапісу **g** і **h**:

**a)** **h** пішацца ўва ўсіх беларускіх словах, апроч выпадкаў каранёвага спалучэньня **zg**;

**b)** **g** захоўваецца ў каранёвым спалучэньні **zg** (а таксама ў фанэтычна блізкіх яму спалучэньнях **žg**, **dzg**, **džg**) нават тады, калі паміж названымі літарамі ўзьнікае "беглы" галосны: *roz****g****a – roza****g***[96];

**c)** **h** пішацца ў асвоеных пазычаньнях: ***h****iea****h****rafija*;

**d)** у барбарызмах практыкуецца напісаньне, тоеснае напісаньню ў мове-крыніцы: ***g****estapo*[97], *alter e****g****o*, ***g****rand prix*, ***h****otdo****g***.

### 2.3. Літары *g* і *h* у беларускай анамастыцы

У беларускіх уласных назовах літара **g**, на нашую думку, павінна захоўвацца ў імёнах:

1) утвораных ад апэлятываў, якія ў лацінцы пішуцца праз **g**:

– антрапонімы (прозьвішчы):

*Браз*[**g**]*ун(оў)/Braz****g****un(ой)* ← *браз*[**g**]*ун/braz****g****un* 'бразготка'[98],

*Ляз*[**g**]*оўка/Laz****g****ойка* ← *ляз*[**g**]*аць/laz****g****ać*,

*Маз*[**g**]*о/Maz****g****o*, *Маз*[**g**]*овіч/Maz****g****ovič* ← *маз*[**g'**]*і/maz****g****i*,

*Мяз*[**g**]*а/Miaz****g****a* ← *мяз*[**g**]*а/miaz****g****a*,

у тым ліку балцкага паходжаньня:

*Дрыз*[**g**]*аловіч/Dryz****g****alovič* ← *дрыз*[**g**], *дрыск* 'ануча'[99];

[93] Sidarevič Anatol. Dźvie knihi.

[94] RR. Narodžanyja grantavaj systemaj…

[95] Беларускі клясычны правапіс. С. 71. Артаграма 61.

[96] Sieńkievič H. Quo vadis? S. 95.

[97] Kvietka Vitan. Lavon Vitan-Dubiejkaŭski. S. 16.

[98] СПЗБ. Т. 1. С. 211.

[99] Тамсама. Т. 2. С. 96.

– айконімы (населеныя пункты):

[**G**]*антоўля/**G**antoŭla* Горацкага раёну[100],

[**G**]*онтаўшчына/**G**ontaŭščyna* Ашмянскага раёну[101] ← [**g**]*онта/**g**onta*,

*Маз*[**g**]*аны* Віцебскага раёну[102],

*Ма*[**g'**]*еры* Аршанскага раёну, *Ма*[**g'**]*ераўка* Верхнядзьвінскага раёну[103] ← *ма*[**g'**]*ерка/ma**g**ierka*;

2) якія маюць каранёвыя спалучэньні **zg**, **žg**, **dzg**, **džg** – незалежна ад моўнай асновы (паходжаньня):

*З*[**g'**]*іроўскі/Z**g**iroŭski* й *Ж*[**g'**]*іроўскі/Ž**g**iroŭski*,

*Аж*[**g'**]*ірэвіч/Až**g**irevič*,

*Міз*[**g'**]*іры/Miz**g**iry* Слонімскага раёну[104].

Але: *Бяз*[**h**]*убенка/Biaz**h**ubienka*, *Уз*[**h**]*орскі/Uz**h**orski*, бо суадносяцца з апэлятывамі *бяз*[**h**]*убы/biaz**h**uby*, *уз*-[**h**]*орак/uz**h**orak*, дзе *бяз-/biaz-*, *уз-/uz-* – прыстаўкі.

Корпус антрапонімаў з каранёвымі спалучэньнямі **зг** і **жг** ахоплівае ўсяго колькіх дзясяткаў прозьвішчаў: у базе[105] занатаваныя 83 адзінкі з спалучэньнем **зг**, 15 з **жг**; прозьвішчы з спалучэньнямі **дзг**, **джг** не зафіксаваныя наагул.

У астатніх беларускіх назовах, відаць, варта пісаць **h** – незалежна ад моўнай асновы й мясцовае вымовы, напрыклад, у тапонімах балцкага паходжаньня: рака [**G**]*аўя*, вёскі [**G'**]*інэлі* Воранаўскага раёну[106], *Ра*[**g**]*ава* Менскага раёну[107], хутар *Мар*[**g'**]*і* Ашмянскага раёну[108] – ***H**aŭja*, ***H**ineli*, *Ra**h**ava*, *Mar**h**i*.

Па настойваньні носьбіта, прозьвішча можа афармляцца праз **g** толькі ў выпадку, калі ў беларускай мове няма адпаведнага апэлятыва, які пішацца праз **h**: напрыклад, прозьвішчы балцкага паходжаньня – [**G'**]*інтаўт/**G**intaŭt*, *Мар*[**g'**]*ель/Mar**g**el*, але: ***Г**вазьдзёў/**H**vaździoŭ*, бо паходзіць ад [**h**]*возд/**h**vozd*.

Прызнаемся, ня маем разьвязаньня для праблемы напісаньня небеларускіх прозьвішчаў нарадзінцаў і жыхароў Беларусі: *Азгур – Az**h**ur* ці *Az**g**ur*? З аднаго боку, трэба беларусізаваць – як зьяву беларускае культуры, г. зн. пісаць праз **h**; з другога боку, вымаўленьне [**g**] пасьля **з** у корані слова – гэта й ёсьць беларуская артаэпічная норма, таму напісаньне праз **h** толькі расхіствае яе. Іншая рэч, прозьвішча *Абезгаўз* (або *Абязгаўз*, або *Абэзгаўз*)[109], дзе фармант *-гаўз* узыходзіць да ням. *-**h**aus*, а значыць, гэтае слова лацінкаю мусіць пісацца праз **h** – *Abez**h**aŭz*.

Адкрытым уяўляецца пытаньне правапісу імён асобаў беларускае гісторыі, якія ў старабеларускай мове пісаліся праз **кг**–**г**/**kh**–**g**: *Al**h**ierd* ці *Al**g**ierd*, ***H**iedymin* ці ***G**iedymin*, ***H**aštold* ці ***G**aštold*, ***H**ierdzień* ці ***G**ierdzień*, *Mindoŭ**h*** ці *Mindoŭ**g***, *Žy**h**imont* ці *Žy**g**imont* ды інш.

### 2.4. Літары *g* і *h* у іншамоўнай анамастыцы

Разьвязаньне гэтага пытаньня ляжыць у рэчышчы асноўных прынцыпаў перадаваньня іншамоўных уласных назоваў у лацінкавым тэксьце:

А. Уласныя назовы іншамоўнага паходжаньня, не зьвязаныя зь Беларусьсю, падаюцца ў адпаведнасьці:

1) з **напісаньнем** у мове-крыніцы – калі гэтая мова карыстаецца **лацініцаю**: *raka Rhein*, *aŭtamabilny kancern “Peugeot”*;

пры гэтым:

– у склонавых формах пішуцца адпаведныя флексіі: *vizyt Balcerowicza*; у выпадку, калі назоў сканчаецца на “нямы” галосны, пасьля яго ставіцца апостраф: *sanety Shakespear**e'**a*;

– захоўваюцца не ўласьцівыя беларускай лацініцы літары (калі дазваляюць тэхнічныя магчымасьці), літарныя спалучэньні й дыякрытычныя знакі: *prezydent Mitterrand*, *vostraŭ Sjælland*, *prybyŭ u München*, *ciahnik u Plzeň*, *hości z São Paolo*;

2) з **напісаньнем** у стандартным лацінічным варыянце – для нелацінічных моў, якія, аднак, маюць такую сыстэму, напрыклад: кітайскія назовы перадаюцца паводле сыстэмы піньнь: *Hong Kong*, *Taiwan*, сэрбскія – паводле правілаў харвацкае мовы[110]: *Novi Sad*, *Subotica*, *Slobodan Milošević*;

3) з **вымаўленьнем** у мове-крыніцы – калі ў гэтай мове ўжываецца **не лацініца** (у межах беларускае фанэтыкі): *Ašhabad*, *Biškiek*, *Nezami/Nizami*, *Umar Chajam*.

B. Асобную групу складаюць назовы замежных аб'ектаў і імёны замежнікаў, якія маюць у беларускай мове адметныя формы, замацаваныя працяглаю традыцыяй:

1) назовы кантынэнтаў, акіянаў, мораў, іншых тапанімічных аб'ектаў, “не прывязаных” да пэўнае мовы: *Afryka*, *Indyjski akijan*, *Tasmanskaje mora*, *hara Everest*;

2) назовы шэрагу краінаў і земляў: *Anhielščyna*[111] (анг. England), *Čechija* (чэск. Čechy), *Niamieččyna* (ням. Deutschland), *Polšča* (польск. Polska), *Vuhorščyna* (вугорск. Magyarország);

3) назовы гарадоў: *Biełastok* (польск. Białystok), *Krakaŭ* (польск. Kraków), *Neapal* (іт. Nápoli), *Paryž* (фр. Paris), *Ryha* (латыск. Rīga), *Rym* (іт. Roma), *Varšava* (польск. Warszawa), *Viena* (ням. Wien), *Vilnia* (летув. Vilnius), у тым ліку зь нелацінічных моваў: *Pekin* (піньн: *Beijing*), *Kijeŭ* (укр. Київ/Kyiv), *Lvoŭ* (укр. Львів/Lviv);

---

100 Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці. Мінск, 1983. С. 49.

101 Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць: Нарматыўны даведнік / Пад агульн. рэд. В. П. Лемцюговай. Мінск, 2004. С. 109.

102 Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мінск, 1977. С. 241.

103 Тамсама. С. 240.

104 Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць. С. 328.

105 [Электронная тэлефонная база г. Менску.] 2003.

106 Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць. С. 154.

107 Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мінская вобласць: Нарматыўны даведнік / Пад агульн. рэд. В. П. Лемцюговай. Мінск, 2003. С. 317.

108 Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць. С. 90.

109 Характар асвойваньня **е** ў гэтым і падобных выпадках уяўляе зь сябе асобную праблему й выходзіць за межы нашае працы.

110 Да распаду Югаславіі існавала адзіная сэрбскахарвацкая мова.

111 Лацінкавыя напісаньні зробленыя паводле традыцыйнае лацінкі.

але: *Birmingham*, *Hudson*, *New York*, *Madrid*, *Marseille*, *Mumbai*, *Vltava*, *Washington*, *Wrocław*, *Zakopane*, *Zagreb*.

Асобнага адзначэньня заслугоўвае праблема перадаваньня звонкага заднеязычнага ў барбарызмах грэцкага паходжаньня. Рэч у тым, што, з аднаго боку, грэцызмы ў лацінскім абліччы традыцыйна афармляюцца праз **g** (напр., *a**g**apy* ‘культавыя абрады ў першых хрысьціянаў’[112]); з другога боку, афармленьне грэцызмаў праз **h** выглядае цалкам абгрунтаваным з прычынаў фанэтычных: і ў беларускай, і ў грэцкай мовах тут гучыць той самы фрыкатыўны гук. Таму й практыка ўжываньня **g** і **h** у грэцызмах была асабліва пярэстаю й супярэчліваю: *A**g**ata*[113] і *A**h**ata*[114], *Pita**h**or*[115] (праўда, таксама праз **h** аформленыя ў выданьнях айца Пётры Татарыновіча нават лацінізмы: *Kali**h**ula*[116] (лац. *Caligula*), хоць такое напісаньне ўласных назоваў выглядае больш чым сумнеўным). Магчыма, разьвязаньнем магло б быць прызнаньне за норму абодвух варыянтаў.

## 3. Перадаваньне [x]

У традыцыйнай лацінцы гук [**x**] абазначаецца дыграфам **ch**. Але з 1980-х гадоў у гэтай функцыі некаторыя энтузіясты лацінкі ўзяліся выкарыстоўваць літару **x**. Часьцей такое напісаньне пачало практыкавацца з узьнікненьнем электроннае пошты.

За дыграфічнае перадаваньне [**x**] прамаўляе традыцыя – яшчэ з часоў старабеларускае лацінкі, аднак склалася гэтая традыцыя не на беларускай глебе: дыграфічнае напісаньне прыйшло з лаціны (празь нямецкае й польскае пасярэдніцтва), дзе гэты дыграф абазначаў [**x**] у грэцызмах: ***ch**aos*, *ar**ch**itectura* (праўда, у нямецкай, польскай, чэскай, славацкай мовах **ch** ужываецца значна шырэй – і ўва ўласнай лексыцы). Якраз з грэцкага альфабэту, ад якога й паходзіць кірыліца, літара **χ** “хі” (праўда, у лацінскім абліччы – **x**[117]) трапіла ў міжнародную транскрыпцыю для абазначэньня адпаведнага гуку.

Табліца 1

**Перадаваньне [x]**

| Аргумэнты на карысьць **ch** | Аргумэнты на карысьць **x** |
|---|---|
| 1. Традыцыя з старабеларускае мовы (16 ст.). | 1. Традыцыя **x** у старабеларускай мове – праўда, кірылічнаю графікаю, – яшчэ старажытнейшая (мяжа 1 і 2 тысячагодзьдзяў). |
| 2. Захаваньне графічнае сувязі з пазычаньнямі: лац. *ar**ch**uvum* – бел. *ar**ch**ій*, лац. ***ch**aracter* – бел. ***ch**araktar*. | 2. Значная група апэлятыўных (ня ўласныя назовы) пазычаньняў з **ch** у значэньні [**x**] – грэцызмы, таму напісаньне **x** будзе якраз вяртаньнем да арыгінальнага напісаньня. |
| 3. У адрозьненьне ад спалучэньня **ch**, літара **x** будзе блытаць чытача, бо ў лаціне і адпаведна ў шэрагу іншых моў яна абазначае [**ks**]. | 3. І літара **x**, і спалучэньне **ch** у розных мовах маюць рознае гукавае значэньне*, таму няма сэнсу трымацца за іх лацінскае значэньне. |
| | 4. Беларускамоўныя тэксты лацінкаю робяцца зь літараю **x** больш адметнымі, пазнавальнымі сярод лацінічных тэкстаў на іншых мовах. |
| | 5. Літара **x** адпавядае міжнароднай транскрыпцыі й выглядае лягічна ў адным альфабэце з шырока карыстанымі абазначэньнямі шыпячых **č**, **š**, **ž**. |
| | 6. Ужываньне замест дыграфа – аднае графэмы дае эканомію графічных сродкаў. |
| | 7. Выкарыстаньне літары **x** адпавядае патрабаваньню “ідэальнага” пісьма: адзін гук – адна літара, – у адрозьненьне ад **x**, спалучэньне **ch** тэарэтычна можа чытацца як дзьве асобныя літары: **c**+**h** – **ц**+**г**. Такога спалучэньня ўва ўласнабеларускай лексыцы няма, аднак яно магчымае ў словах іншамоўнага паходжаньня: *эр**цг**ерцаг* – *er**ch**iercah* (можа быць памылкова прачытанае як “эрхерцаг”), *спэ**цг**рупа* – *spe**ch**rupa* (“спэ**х**рупа”), *фаль**цг**эбель* – *fal**ch**ebiel* (“фаль**х**эбель”). |

* Прыкладам, **ch** у ангельскай абазначае [**č**] або [**k**], у гішпанскай – [**č**], у францускай – [**š**], у швэдзкай – [**š**] або [**k**], у румынскай – [**k’**]; **x** на пачатку слова ў ангельскай – [**z**], на канцы слова ў францускай – *ϕ*, у курдзкай – [**x**], у партугальскай і **ch** і **x** – [**š**] і г. д.

---

112 Sieńkievič H. Quo vadis? S. 139.

113 J. H. Dla małych dzietak. S. 43, <punkt> 45.

114 Losik Anton. Biełaruski pravapis. S. 53.

115 Sieńkievič H. Quo vadis? S. 226.

116 *Ibid.* S. 225.

117 Тут узьнікае аманімія знакаў, бо ў лацінскай мове **x** можа абазначаць грэцкую афрыкату [**k͡s**], якая ў грэцкай мове перадаецца літараю Ξ ξ “ксі”.

### 4. Зьбег *і* + *галосны* на марфэмным сутыку

Асноўнае сыстэмнае адрозьненьне лацінкі ад кірыліцы – гэта прынцыпы пазначэньня мяккасьці (гл. таб. 2).

Уласьцівы лацініцы, агулам удалы прынцып пазначэньня мяккасьці зычных у становішчы перад галоснымі спараджае невялікую "нязручнасьць": напрыклад, у слове *hum**ia**rabik* спатыкаецца такое ж спалучэньне галосных літараў, як і ў слове *abm**ia**rkoŭvać*, у *kvaz**io**ptyka* – як у *z**io**łki*, у *amp**io**ks* – як у *ap**io**k*, у *kvaz**ie**ŭrapiejski* – як у *spadz**ie**ŭ*. Аднак чытаюцца гэтыя спалучэньні па-рознаму: у першых прыкладах спалучэньні **ia**, **io**, **ie** абазначаюць па два адпаведныя галосныя гукі, а ў другіх прыкладах – тыя ж спалучэньні абазначаюць адзін галосны гук і ўказваюць на мяккасьць папярэдняга зычнага.

Такім чынам, мы сутыкаемся з **амаграфіяй** (супадзеньнем напісаньня пры рознасьці значэньня) адпаведных спалучэньняў галосных: або [**іа**], [**іэ**], [**іо**], або [**'а**], [**'э**], [**'о**]. Ведама ж, частотнасьць зьбегаў **ia**, **io**, **ie** на марфэмным сутыку ў агульнаўжывальнай лексыцы вельмі нізкая (хоць у тэрміналёгіі, асабліва хімічнай, такія зьбегі сустракаюцца значна часьцей), аднак гэта, несумнеўна, непажаданая зьява для графікі любой мовы, бо амаграфія замінае хуткаму й адназначнаму разуменьню тэксту.

Па дарозе зазначым, што ў кірыліцы такой праблемы няма з прычыны выкарыстаньня ётаваных галосных літараў: *гум**іа**рабік* – *абм**я**ркоўваць*, *кваз**іэ**ўрапейскі* – *спадз**е**ў*, *кваз**іо**птыка* – *з**ё**лкі*, *амп**іо**кс* – *ап**ё**к*.

Ёсьць два варыянты разьвязаньня праблемы:

1) для абазначэньня мяжы марфэмаў увесьці разьдзяляльнік;

2) пакінуць як ёсьць.

Вось аргумэнтацыя "за" і "супраць".

**4.1.** У якасьці разьдзяляльніка, паказьніка марфэмнае мяжы мог бы выступіць апостраф. Такая спроба рабілася на кірылічнай глебе. У 1982 годзе ў РБС-2[118] і АрфСл-4[119], а ў 1984 годзе ў ТСБМ[120] (т. 2) зьявіліся напісаньні празь "нямы" апостраф: *з'араць*, *з'арганізаваць*, *з'арфаваць*, *з'арыентавацъ*, *з'асяродзіць*, *з'імправізаваць*, *з'імшэць*, *з'іначыць*, *з'інець*, *з'эканоміць* і некаторыя аднакаранёвыя, чаго ў 1987 годзе не падтрымаў СБМ, аднак у 1988 годзе ў БРС-2[121] зноў бачым тую ж практыку.

Выкарыстаньне апострафа ў ролі разьдзяляльніка амаль адразу ж пасьля зьяўленьня падлегла крытыцы:

> ...[у] апострафа ў беларускай мове няма ніякай раздзяляльнай функцыі. Ён толькі паказвае, што адпаведным галосным у вымаўленні папярэднічае ёт. Назва "раздзяляльны апостраф", на наш погляд, з'яўляецца вынікам механічнага пераносу з рускай мовы часткі назвы так званага "раздзяляльнага цвёрдага знака". Беларускі апостраф можна было б проста называць "знакам ётацыі". Ніякай "раздзяляльнай" функцыі няма ў апострафа і ў выпадках тыпу д'АРК, д'ЭСТЭН. Ніхто не вымаўляе гэтыя прозвішчы з рэзкім размыканнем галасавых звязак, як гэта мае месца, напрыклад, у нямецкай мове, дзе ёсць так званы цвёрды прыступ галоснага ў пачатку слова ці марфемы. У нас гаворацъ проста: ДАРК, ДЭСТЭН. Тым больш ніхто не будзе гвалціць сябе цвёрдым прыступам, вымаўляючы: З'АГІТАВАЦЬ, З'АСЯРОДЗІЦЦА і г. д. Такое вымаўленне можна пачуць хіба ў эмацыянальным адмаўленні "не-'а!"[122].

Такім чынам, "разьдзяляльны" апостраф ужо ў слоўніках наступных гадоў выданьня не зьяўляўся; навацыя не прынялася, бо ня мела сыстэмнага характару ды спараджала полісэмію знакаў, што прынамсі ў артаграфіі ўважаецца за хібную зьяву. Зь іншага боку, апостраф пасьлядоўна ўжываўся ў якасьці маркера скарачэньня: *до'/do'* 'досыць', *ё'/jo'* 'ёсьць', *зápa'/zára'* 'зараз' (дзеля разьбяганьня амаграфіі з *зарá/zará*), *зд'эцца/zd'ecca* 'здаецца', *на'т/na't* 'нават', *мо'/mo'* 'можа', *трэ'/tre'* 'трэба', *'шчэ/'šče* 'яшчэ' ды інш.

Таксама апостраф у ролі разьдзяляльніка ня вельмі да месца з прычыны яго зыходнага фанэтычнага значэньня – у старажытнагабрайскай мове літара ʾ абазначала ёт і такую ж ролю выконвае ў сучаснай беларускай кірыліцы. Праўда, для лацінічнай традыцыі апостраф даўна страціў сваё фанэтычнае значэньне й актыўна ўжываецца ў ролі "нямога" разьдзяляльніка (у тым ліку, і спалучаючы функцыю маркера скарачэньня) у ангельскай (*John's*, *rock'n'roll*), францускай (*Jeanne d'Arc*), нямецкай (*'swar*), італійскай (*e'libero*) ды іншых шырокаўжываных мовах.

Можна было б прааналізаваць магчымасьць выкарыстаньня ў якасьці разьдзяляльніка злучка (-), аднак гэтая прапанова выглядае больш контравэрсійнаю за

Табліца 2

**Пазначэньне мяккасьці зычных у лацінцы й кірыліцы**

| Пазыцыя зычнага | Графічная сыстэма | |
|---|---|---|
| | Лацінка | Кірыліца |
| перад галоснымі | літара **i** паміж зычнаю літарай і наступнаю галоснаю | ётаваная галосная літара (**е**, **ё**, **ю**, **я**) пасьля зычнай |
| перад іншымі зычнымі й на канцы слова | дыякрытычны знак акут (´) над літараю (**ć**, **ń**, **ś**, **ź**) | літара **ь** для зьмякчэньня (у адрозьненьне ад **ь** для "разьдзяленьня", г. зн. для абазначэньня ёта) |

[118] Русско-белорусский словарь / Ред. К. К. Атрахович (К. Крапива). Изд. 2, доп. и перераб. Т. 1–2. Минск, 1982.

[119] Арфаграфічны слоўнік: Для пачат. шк. Выд. 4. Мінск, 1982.

[120] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. / Пад агульн. рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). Мінск, 1977–1984.

[121] Беларуска-рускі слоўнік / Рэд. К. К. Атраховіч (К. Крапіва). Выд. 2, перапрац. і дапоўн. Т. 1–2. Мінск, 1988–1989.

[122] Садоўскі Пятро. Калі ж пішацца апостраф? // ЛіМ. 1983. 5 жніўня. Гл. таксама: Садоўскі Пётра. Новы слоўнік – новы правапіс? // Беларусь. 1989. № 9. Верасень. С. 23.

папярэднюю – хоць бы з тае прычыны, што такое ўжываньне злучка будзе размываць і так няпростыя правілы выкарыстаньня гэтага знака.

**4.2.** У беларускай графіцы – як у лацінкавай, так і ў кірылічнай – ёсьць тыпалягічна тоесныя выпадкі амаграфіі. Мы маем на ўвазе спалучэньні **dz**/**дз**, **dź**/**дзь** і **dž**/**дж**, якія абазначаюць або адзін, або два гукі – у залежнасьці ад кантэксту: *падзем'е* – *падзякаваць*, ***ад****зьвінець* – ***ад****зьвернік* 'привратник', *па****дж****аць* 'зжаць трохі' – *па****дж****аліць*. Выпадкі, калі **dz**/**дз**, **dź**/**дзь**, **dž**/**дж** абазначаюць два гукі – нячастыя, таму кантэксту, падмацаванага адпаведнымі заўвагамі ў даведніках і слоўніках, дастаткова для таго, каб ня блытаць фанэтычнага напаўненьня амаграфічных напісаньняў.

## 5. Перадаваньне цьвёрдасьці й мяккасьці *l* (праблема *ł*)

На заканчэньне мы пакінулі самае дакліваe й цяжкое сярод узьнятых пытаньняў – праблему **ł**, якую пастараемся прааналізаваць з розных бакоў.

### 5.1. Сыстэмны аспэкт (несыстэмнасьць графэмаў *ł* і *l* у традыцыйнай лацінцы)

Існуюць два падыходы да інтэрпрэтацыі літары **ł**:

a) асобная літара;

b) варыянт літары **l** з дыякрытычным знакам.

Разгледзьма **ł** і **l** праз прызму кожнага з падыходаў.

### 5.1.A. Графэма *ł* – асобная літара

Графэмны склад лацінкі для абазначэньня зычных падзяляецца на дзьве групы: 1) графэмы **b**, **c**, **f**, **g**, **h**, **k**, **m**, **n**, **p**, **s**, **v**, (**x**), **z**, а таксама дыграфы **ch**, **dz** могуць абазначаць як цьвёрдыя, так і фанэтычна адпаведныя ім мяккія гукі (фаналягічна такой адпаведнасьці ў выпадку з **c** і **dz** не назіраецца) – у залежнасьці ад наступнае літары (**i** ці ня-**i**[123]): [d͜z']***i****ńkać* – [d͜z]*ynkać*, [f']***i***[f]*a*, [h']***i***[h]*ant*, *na* [c]*yra*[c']***i****e*; 2) графэмы **ć**, **č**, **d**, **j**, **l**, **ł**, **ń**, **r**, **ś**, **š**, **t**, **ŭ**, **ź**, **ž**, а таксама дыграфы **dź**, **dž** ды графэмныя групы для падоўжаных **ćc**['], **čč**, **dźdz**['], **ll**, **ńn**['], **śs**['], **šš**, **žž** – абазначаюць або толькі цьвёрдыя, або толькі мяккія зычныя.

Літары **d** і **t** абазначаюць толькі цьвёрдыя гукі (гэтым яны падобныя да літараў для заўсёды цьвёрдых), аднак парныя гэтым цьвёрдым мяккія абазначаюцца перад галоснымі адпаведна дыграфам **dz** і графэмаю **c**, што маюць па два фанэтычныя значэньні (зацьвярдзелыя [**d͜z**] і [**c**] ды мяккія [**d͜z'**] і [**c'**]), як і астатнія літары першае групы. Літары **ć**, **ń**, **ś**, **ź** і дыграф **dź** абазначаюць толькі мяккія зычныя ў становішчы перад зычнымі або на канцы слова.

Іншую карціну рэпрэзэнтуюць літары **ł** і **l**. Графэма **ł** заўсёды абазначае цьвёрды гук, чым прыпадабняецца да **d**, **t**, аднак у якасьці абазначэньня адпаведнага мяккага выступае іншая літара – **l**, якая – у адрозьненьне ад **dz** і **c** – мае толькі адно значэньне (заўсёды абазначае мяккі гук [**l'**]), чым прыпадабняецца да ёта, якім натуецца толькі адзін гук – мяккі [**j**]. Аднак жа [**j**] ня мае пары паводле цьвёрдасьці~мяккасьці, а [**l'**] мае такую пару – [**l**].

Як бачым, тут літара **l** выступае як несыстэмная.

### 5.1.B. Графэма *ł* – варыянт літары *l* з дыякрытычным знакам

Шэраг гукаў у становішчы перад зычным і на канцы слова могуць быць як цьвёрдымі, так і мяккімі. Для такіх мяккіх у лацінцы ёсьць адмысловыя абазначэньні, якія складаюцца зь "цьвёрдай" графэмы й надрадковага знака – акута: **ć**, (**dź**), **ń**, **ś**, **ź**.

Літары **l** і **ł** "дысануюць" з элемэнтамі гэтае групы зь дзьвюх прычынаў:

1) "базавая" літара (бяз знака) абазначае цьвёрды гук, мадыфікаваная (з знакам) – мяккі; у выпадку з **l**, **ł** справа выглядае наадварот: "базавая" літара – мяккі, "мадыфікаваная" – цьвёрды[124];

2) у графэме **ł** выкарыстоўваецца ўнікальны дыякрытычны знак – "перакрэсьленьне" (адзіная аналёгія – літара **ø** ў данскай мове, зь якой яна трапіла ў нарвэскую й фарэрскую).

Такім чынам, пры любой інтэрпрэтацыі **ł** – літары **l** і **ł** парушаюць сыстэму беларускае лацініцы. Паказальна, што **ł** ня мае адмысловага назова ў беларускай мове (у польскай ён ёсьць – "ł kreskowane").

### 5.2. Фанэтычны аспэкт

Гістарычна ў польскай мове пара цьвёрды **ł** – мяккі **l** была тоесная іншым парам па цьвёрдасьці мяккасьці, а таксама беларускай пары [**l**]–[**l'**], аднак з часам фанэтычная блізкасьць пачала страчвацца, і на сёньняшні дзень літара **ł** мае два варыянты вымовы:

1) гістарычны – пярэднеязычна-зубны ("przedniojęzykowo-zębowe") [**ł**] (прыкладна адпавядае беларускаму цьвёрдаму **л** – [**l**]), практычна зьнік, намінальна застаўшыся толькі ў "тэатральным маўленьні";

2) "новы" (узьнік на мяжы 16–17 стагодзьдзяў, пашырыўся ў 19–20 стагодзьдзях[125]) – білябіяльны ("dwuwargowy") [u̯] (у транскрыпцыі часам абазначаецца праз [**w**]); артыкуляцыйна блізкі беларускаму **ў** – [**ŭ**]), фактычна агульнаўжывальны.

Што да літары **l**, то яна абазначае два розныя гукі:

1) пярэднеязычна-альвэалярны ("przedniojęzykowodziąsłowe") [**l**], які супадае месцам утварэньня з [**r**], але адрозьніваецца ад апошняга спосабам утварэньня (адпавядае "сярэднеэўрапейскаму" **l** – ні цьвёрдаму, ні мяккаму; блізкага гуку ў беларускай мове няма);

2) адпаведны яму мяккі (прыкладна як беларускі мяккі [**l'**])[126].

Відаць, усьведамляючы несымэтрычнасьць беларускіх [**l**]–[**l'**] польскім **ł**–**l**, Ян Карловіч (польскі мовазнавец "крэсовага паходжаньня") прапанаваў пазначаць мяккасьць у беларускіх лацінічных тэкстах апостра-

[123] Зрэшты, можна лічыць, што падвойнае значэньне мае ня зычная літара, а спалучэньне "зычная літара (**C**) + **i**": (1) перад зычным ці на канцы слова – два гукі – [**C'i**]: ***nitki*** [***n'itk'i***]; (2) перад галоснаю літараю – адзін гук – [**C'**]: ***mianie*** [**m'an'e**].

[124] Роланд Марці. Алфавіт і правапіс – лінгвістычны і сімвалічны аспекты (лацініца) // Acta Albaruthenica. 5. Мінск, 2005. С. 233.

[125] Klemensiewicz Z., Lehr-Spławiski T., Urbańczyk S. Gramatyka historyczna języka polskiego. Warszawa, 1981. S. 151.

[126] Bąk Piotr. Gramatyka języka polskiego. Warszawa, 1977. S. 84, 85.

фам, у тым ліку перадаваць названую пару не праз **ł–l**, а праз **l–l'**[127]. Можна меркаваць, гэта быў першы прэцэдэнт выкарыстаньня графэмы **l'** у беларускім тэксьце: *dijaba**l*** ‘д’ябал’, *kara**l'**óm*, *kru**l'**ewna*, ***l'**akáj* ‘лёкай’, *saka**ł**ów* ‘сакалоў’, *s**ł**uha*, *sta**l'**etna* ‘стогадовая’, *w **l**ob’a* ‘у лобе’. Дарэчы, тут жа былі скарыстаныя й іншыя графэмы, адрозныя ад знакаў польскага літарнага набору, якія пазьней сталіся элемэнтамі лацінкавай абэцэды: **č**, **š**, **ž**, **v** (літараю **w** перадаваўся гук [**ŭ**])[128].

### 5.3. Сымбалічны аспэкт

Графічная сыстэма любое мовы – яркае сьведчаньне яе адметнасьці, набор пэўных графічных знакаў дае падставы ідэнтыфікаваць пэўны тэкст як факт тае ці іншае мовы. Такім чынам, “асаблівыя” літары маюць вялікае сымбалічнае значэньне для пісьма ў любой графічнай сыстэме. У польскім пісьме адною з такіх сымбалічных літараў ёсьць графэма **ł**. Калі быць дакладным, **ł** выкарыстоўваецца яшчэ ў блізкароднасных польскай мове – кашубскай і сорбскіх (верхня- і ніжнялужыцкай), а таксама ў мове паўночнаамэрыканскіх індзейцаў наваха[129] і, ведама ж, у беларускай лацініцы. Аднак колькасьць і даступнасьць тэкстаў на польскай у параўнаньні з тэкстамі на ўсіх астатніх *ł*-графічных мовах разам – проста несупастаўляльныя. Таму для абсалютнай бальшыні наяўнасьць у тэксьце літары **ł** – выразны, найярчэйшы знак польскамоўнасьці ўсяго тэксту.

Цягам стагодзьдзяў сьведамая частка беларускае супольнасьці імкнецца сьцьвердзіць беларусаў як асобны народ, з сваёй гісторыяй, культураю, моваю. Адметнасьць тэкстаў на беларускай мове (кірылічных – ад расейскамоўных, лацінкавых – ад польскамоўных) – важны кампанэнт нацыянальнага самасьцьверджаньня беларусаў.

Такім чынам, літара **ł** нясе непажаданую сымбалічную “канатацыю”, даючы лішні аргумэнт несымпатыкам лацінкі (“лацінка – гэта польская інтрыга, крок у бок палянізацыі”), і пярэчыць асноўнаму вэктару разьвіцьця беларускае лацінічнай абэцэды – аддаленьне ад польскае графікі ў кірунку ўнівэрсальных графэмаў, характэрных для цэлага шэрагу моваў, а таксама для міжнароднае транскрыпцыі.

### 5.4. Літара *ł* у дыяхраніі

У старабеларускіх лацінкавых тэкстах, насуперак чаканьням, **ł** ужывалася непасьлядоўна, і што асабліва паказальна: **ł** няма ў першым – прынамсі, у згаданым у якасьці першага, – тэксьце лацінкаю: *blahowiernej* (Моладаўскі надпіс). А ў магдэбурскім прывілеі Віцебску знаходзім напісаньне *Inf**li**anski*, дзе спалучэньнем **li** перадаецца гук [**l'**] – у адрозьненьне ад польскага напісаньня бязь **i**: *Inflancki*. Праўда, пазьней, з 18 стагодзьдзя, літара **ł** запанавала ў беларускай лацініцы.

[127] Podania białoruskie zebrane przez Władysława Weryhę poprzedzone ustępem przez Jana Karłowicza. Lwów, 1889.

[128] Праўда, у выданьні прапаноўваліся й іншыя напісаньні, якія пазьней не знайшлі рэалізацыі, прыкладам, абазначэньне [**dž**] праз **d'**: *mažd'er*.

[129] Гиляревский Р. С., Гривнин В. С. Определитель языков мира по письменностям. С. 305.

Для абазначэньня цьвёрдага гуку [**l**], тоеснага беларускаму, літара **ł** ужывалася і ў летувіскай мове – аж да канца 19 стагодзьдзя[130], што тлумачылася вялізным уплывам польскае графікі на летувіскую. Аднак ужо на пачатку 20 стагодзьдзя **ł** перастае выкарыстоўвацца: цьвёрды [**l**] пачынае передавацца літараю **l**, а для абазначэньня мяккасьці выкарыстоўваецца стандартны сродак – літара **i**, напрыклад: ***li**utas* [**l'**utas] ‘леў’.

Падсумоўваючы сказанае вышэй, прапаноўваем **адмовіцца ад выкарыстаньня літары *ł*** у беларускай лацініцы, а літару **l** ужываць у адпаведнасьці з прынцыпамі, якія рэалізоўваюцца пры выкарыстаньні іншых зычных графэмаў. Тым больш, што такое рашэньне прайшло ўжо афіцыйнае замацаваньне ў Інструкцыі[131].

### 5.5. Захаваньне арыгінальнага аблічча ў пазычаньнях з *l*

Прадбачачы галоўны (апроч “традыцыі”) аргумэнт на карысьць захаваньня **ł**, разгледзьма яго асабліва падрабязна. Маем на ўвазе наступнае меркаваньне: як вядома, кірылічным адпаведнікам для лацініцы ёсьць клясычны стандарт (“тарашкевіца”), паводле якога **l** у большасьці пазычаньняў з заходніх моваў – мяккі. Таму традыцыйнае перадаваньне мяккага [**l'**] праз **l** дазваляе захаваць графічнае адзінства з словамі-“прататыпамі” ў мове-крыніцы: грэцк. *λαμπας*, лац. ***l**ampas* – бел. ***l**ampa*; анг. ***L**ondon* – бел. ***L**ondan*.

Аднак насамрэч сярод пазычаньняў з заходнеэўрапейскіх моваў даволі шмат словаў, у якіх вымаўляецца менавіта цьвёрды [**l**], што пры напісаньні праз **ł** якраз і парушае жаданую графічную сувязь з арыгінальным напісаньнем: грэцк. *κλων* – анг. ***cl**on(e)* – бел. *k**ł**on*; лац. ***L**atina* ‘лацінская (мова)’ – бел. ***ł**acina*; анг. ***l**obby* – бел. ***ł**obi.* Калі ж мы возьмем пад увагу пазычаньні зь іншых, незаходнеэўрапейскіх моваў, дык статыстыка можа быць на карысьць цьвёрдага [**l**].

Ніжэй мы падаем групы словаў іншамоўнага паходжаньня, у якіх вымаўляецца (а сьледам і пішацца) [**l**] цьвёрды[132]:

а) на канцы асновы бальшыні пазычаньняў з заходнеэўрапейскіх моваў, у тым ліку:

– пасьля націскнога [**a**] у назоўніках мужчынскага роду: *admirá**l***, *apá**l***, *aryhiná**l***, *avá**l***, *cyrymanijá**l***, *futará**l***, *hienerá**l***, *ideá**l***, *intelektuá**l***, *intervá**l***, *kaná**l***, *kardyná**l***, *karnavá**l***, *kvartá**l***, *metá**l***, *minerá**l***, *mihdá**l***, *prafesijaná**l***, *pravincyjá**l***, *radyká**l***, *rytuá**l***, *skandá**l***, *syhná**l***, *šturvá**l***, *trybuná**l***, *universá**l***, *vandá**l***; *Bucefá**l***, *Hanibá**l***;

– у адушаўлёных назоўніках мужчынскага роду: *anio**l***, *balaho**l***, *debi**l***, *djaba**l***, *konsu**l***, *krakadzi**l***, *kreo**l***, *marša**l***, *mu**l***, *slavianafi**l***, *tarantu**l***; *Katu**l***, *Romu**l***;

– у лацінізмах на **-ul**(**a**): *artyku**l***, *furunku**l***, *karbunku**l***, *musku**l***, *tytu**l***; *aku**l**a*, *ampu**l**a*, *bu**l**a*, *cydu**l**(k)a*, *fibu**l**a*, *hranu**l**a*, *inkunabu**l**a*, *kapsu**l**a*, *maleku**l**a*, *pihu**l**(k)a*, *prymu**l**a*, *preambu**l**a*;

[130] Palionis Jonas. Lietuvių rašomosios kalbos istorija. II pataisytas ir papildytas leidimas. Vilnius, 1995. S. 236, 240.

[131] Об утверждении Инструкции...; Инструкция по транслитерации...

[132] Паводле: Беларускі клясычны правапіс. С. 64–70. Разьдзел 19.

– у рэчыўных назоўніках на **-il** (**-yl**), **-ol**: *akryl*, *karbanil*; *benzol*, *validol*, *polistyrol*, *perhidrol*, *salidol*, *tasol*, *tol*;

– пасьля ненаціскнога [**a**] паходжаньнем з **-o-** ў назоўніках жаночага роду: *epistala*, *hiperbala*, *parabala*;

– у некаторых іншых назоўніках: *areol*, *matacykl*, *pratakol*; final **-la**: *baryla*, *bacyla*, *vila*, *kadzila*, *mahnitola*, *perla*, *cegla/cehla*[133], *škala*, *škola*, *špala*; *pikala*, *sola*, *tremala*; final **-lo**: *halo* (aptyčnaja źjava), *tablo*.

b) на пачатку і ў сярэдзіне цэлага шэрагу частотных словаў заходнеэўрапейскага паходжаньня: *lava* ‘магма’, *ladan*, *lama* (жывёліна), *lancuh*, *lotra*, *lubin*, *balt*, *blakit*, *blat*, *blazan*, *bolt*, *falda*, *gvalt*, *katafalk*, *kštalt*, *malpa*, *palac*, *salata*, *saldat*; *Baltyka*, *Lazar*, *Larysa*;

c) у бальшыні пазьнейшых англіцызмаў і пазычаньняў праз ангельскую: *kansaltynh*, *kilt*, *napalm*; *lajner*, *on-lajn*; *lord*, *ploter*, *slohan*; *ledzi*; *ludyt*; *plejboj*, *slenh*; *atol*, *vakzal*, *synhl*, *tral*, *fajl*, *fol*, *futbol*; *vaterpola*, *haryla*, *koka-kola*;

d) у назоўніках незаходнеэўрапейскага паходжаньня, у тым ліку:

– у цюркізмах і словах, пазычаных празь цюрскія мовы: *ail*, *altyn*, *aul*, *balyk*, *biklaha*, *chalat*, *chalva*, *čalma*, *jesaul*, *kalduny* (страва) і *kalduniki* ‘пяльмені’, *kalym*, *kizil*, *kurultaj*, *lavaš*, *malna* й *mula*, *pijala*, *sultan*; *Alatau*, *Almaty*, *Altaj*, *Aral*, *Džambul*, *Kyzylkum*, *Balchaš/Balkaš(köli)*[134], *Kzyl-Arda/Hyzylorda*, *Stambul/Istanbul*, *Ulan-Batar/Ulaanbaatar*;

– у сэмітызмах: *chala*, *islam*, *kabala*, *kahal*; *Alah*, *Talmud*;

– у словах іншага незаходнеэўрапейскага паходжаньня: *chural*, *kambala*, *kamčadal*, *lama* (сьвятар), *paltus*, *tamil*, *vahul*; *Latvija*, *Luanda*, *Angola*, *Malajzija/Malaizija*, *Nepal*, *Volha*.

Таму аргумэнт на карысьць захаваньня графічнае сувязі з пазычаньнямі не працуе адназначна на **ł**. Дарэчы, калі вядзецца пра пазычаньні зь незаходнеэўрапейскіх моваў, то **l** у іх можа быць як мяккім, так і цьвёрдым, а значыцца, довад пра графічную сувязь проста пазбаўлены сэнсу ў дачыненьні бальшыні зь іх, бо яны не карыстаюцца лацініцаю.

Аргумэнт графічнае сувязі ў дачыненьні апэлятыўнае лексыкі наагул выглядае неперакана́ўчым з колькіх прычынаў:

1) неаднастайнасьць у передаваньні інтэрнацыяналізмаў (сярод якіх найперш лацінізмы й грэцызмы ў лацінскім напісаньні) рознымі лацінічнымі мовамі. Не ўва ўсіх мовах інтэрнацыяналізмы твораць асобную групу, у якой захоўваюцца традыцыйныя напісаньні, што сфармаваліся ў лаціне, шэраг гукаў у розных лацінічных мовах перадаецца па-рознаму; таму няма падставаў гаварыць пра графічнае адзінства інтэрнацыяналізмаў, напрыклад лац., фр., анг. **c** – ням. **k** (адсюль і бел. **k**): лац. *classis*, фр. *classe*, анг. *class* – ням. *klasse* – бел. *klasa*. Гэтая хісткая агульнасьць, калі яе й прасочваць, яшчэ больш расхістваецца ў зьмяняльных формах і дэрыватах (вытворных словах);

2) пісьмовая рэалізацыя ўласнабеларускіх фанэтычных зьяваў:

– аканьне й яканьне (на лацінкавай глебе – аканьне пасьля мяккіх): лац. *litera* – бел. *litara*, лац. *orator* – бел. *aratar*;

– разьвіццё прыстаўных і ўстаўных гукаў: лац. *odor* – бел. *vodar*, лац. *monstrum* – бел. *monstar*, лац. *diaeta* – бел. *dyjeta*;

– скасаваньне падвойнага напісаньня зычных: лац. *summa* – бел. *suma*, іт. *cassa* – бел. *kasa*;

– выступленьне [**y**] на месцы зыходнага **i** пасьля цьвёрдых і зацьвярдзелых: лац. *dictor* – бел. *dyktar*;

– фанэтычнае асваеньне **g** як **h** у апэлятывах: грэцк. *γιγαντ-* – лац. *gigant-* – бел. *hihant*, фр. *garant* – бел. *harant*;

– граматычнае асваеньне, якое вядзе да зьмены фанэтычнага аблічча: лац. *-tio* – бел. *-cyja*, лац. *museum* – бел. *muzej*, лац. *oralis* – бел. *aralny*;

– іншыя, менш рэгулярныя або нерэгулярныя, мены: лац. *color* – бел. *koler*, лац. *acetum* – бел. *vocat*, лац. *diarius* – бел. *dyjaryjuš*.

У выніку адлюстраваньня на пісьме ўсіх гэтых рысаў зыходная форма ці не бальшыні інтэрнацыяналізмаў зьмяняецца, а значная частка зьмяняецца да непазнавальнасьці: лац. *genius* – бел. *hienij* (адрозьніваюцца 3 знакі з 6), грэцк. *φοινιξ* – лац. *phœnix* – бел. *feniks* (захаваліся толькі 2 знакі з 6).

Таму няма сэнсу трымацца за “аўтэнтычнасьць аблічча”, напрыклад, складоў **la**, **le**, **lo**, **lu** (якія зьменяцца на **lia**, **lie**, **lio**, **liu**), калі пры беларускім асваеньні пазычаньняў “парушаецца аўтэнтыка” ці ня большасьці літарных комплексаў. Тут трэба дадаць, што правапіс спалучэньня **li** ня зьменіцца: *byli*, *liju*, а ў спалучэньнях **lj** [**l’j**] і **ll** [**l̄’**] мяккасьць [**l’**] можна не пазначаць, бо ў становішчы перад ётам ці ў выпадку падаўжэньня **l** заўсёды мяккі: *kalje*, *miljon*; *hallio*, *kapellia*.

#### 5.6. Графічны аспэкт

Калі праблема **ł** разьвяжацца на карысьць яе скасаваньня, якою графэмаю будзе абазначацца мяккі гук [**l’**] перад зычным і на канцы слова? Несумнеўна, гутарка можа ісьці толькі пра літару **l** з пэўным дыякрытычным знакам, хутчэй за ўсё апострафам ці акутам (´). Літара **ļ**, якая ўжываецца выключна ў латыскай мове, мае дзьве хібы: (1) тэхнічную й (2) сыстэмную.

1. Як вядома, розныя і кірылічныя, і лацінскія літары могуць займаць розную плошчу й мець розную арыентацыю (гарызантальную й вэртыкальную), ёсьць літары “шырокія” (**m**) і “вузкія” (**i**), “высокія” (**b**, **d**, **f**, **h**, **k**, **l**, **t**) і “нізкія” (**g**, **j**, **p**, **y**). Звычайна дыякрытыка разьмяшчаецца ў “вольнай зоне”: *пад* “высокімі” й *над* “нізкімі”, прыкладам, як у латыскіх **ģ** і **ķ**; паводле таго ж прынцыпу створаная літара **ļ**. Зрэшты, у выпадку з “высокімі” дыякрытычны знак можа разьмяшчацца за літараю ўверсе, як у **t’**

---

133 У адрозьненьне ад “Беларускага клясычнага правапісу”, тут мы падалі абодва варыянты напісаньня – праз **g** і праз **h**, бо праблема застаецца неразьвязанаю.

134 Паралельна зьмяшчаюцца “больш звыклая” і арыгінальная формы назову.

(сустракаецца ў чэскай і славацкай мовах). Аднак пры малым міжрадкоўі (інтэрліньяжы) **ļ** можа "наяжджаць" на "высокія" й "нізкія" літары папярэдняга й наступнага радкоў, асабліва калі тыя маюць уласную дыякрытыку.

2. У лацінкавай графіцы няма літараў з тоесным знакам і яго разьмяшчэньнем.

У афіцыйным нарматыўным даведніку "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць" у дачыненьні беларускай айканіміі (назовы населеных пунктаў) была ўжытая для абазначэньня мяккага [**l'**] літара **ĺ**:

> мяккасць зычных *з*, *л*, *н*, *с*, *ц* перад змякчальным мяккім знакам (*ь*) перадаецца сімвалам (´): *Jatvieź*, *Anopaĺ*, *Adyń*, *Bielaruś*, *Zabalać*[135].

Гэта, несумнеўна, цікавая прапанова, якая мае адзіную загану – тэхнічную: яна завысокая.

Сярод прэтэндэнтаў застаюцца: ужо згаданая літара **ľ** (ужываецца ў славацкай мове і ў штучнай мове акцыдэнталь[136]) і яе варыянт з акутам **l´**, які не выкарыстоўваецца ні ў воднай мове, а таму будзе ідэнтыфікацыйным для беларускіх лацінічных тэкстаў.

Аднак немагчыма ігнараваць апошняе ўсталяваньне Дзяржаўнага камітэту маёмасьці Рэспублікі Беларусь пастановаю ад 6 ліпеня 2007 году, што ўхваліла ААН, паводле якога гук **[l']** у становішчы не перад галосным абазначаецца графэмаю **Ĺ ĺ**.

## 6. Графічнае разьмежаваньне барбарызмаў і пазычаньняў

Перш як перайсьці да сутнасьці пытаньня, заўважым, што яно актуальнае толькі ў выпадку выкарыстаньня лацінкі для агульных патрэбаў камунікацыі, а ня толькі для стандартнай намінацыі беларускай анамастыкі. Таму гэты пункт мы паставілі апошнім і прысьвячаем яму тут найменш месца.

Праблема разьмежаваньня барбарызмаў і пазычаньняў характэрная, відаць, для ўсіх пісьмовых моваў: ці захоўваць аблічча іншамоўных апэлятываў, ці асвойваць іх графічна? (У дачыненьні літараў **h** – **g** мы закранулі гэтае пытаньне вышэй – у пункце 2.) Іншымі словамі, як пісаць: *a priori* ці *a pryjory*, *jazz* ці *džaz/džez*, *printer* ці *prynter*. Якія словы ўважаць за асвоеныя (пазычаньні), а якія трактаваць як неасвоеныя (барбарызмы). На нашую думку, гэтая праблема тыпалягічна тоесная, прыкладам, вызначэньню кола пазычаньняў, у якіх праводзіцца аканьне й яканьне на месцы этымалягічнага **е**; у "Беларускім клясычным правапісе" гэтае пытаньне вырашанае праз вычарпальныя сьпісы словаў, дзе рэалізоўваецца аканьне й яканьне. Нам уяўляецца, разьмежаваць барбарызмы й пазычаньні можна толькі ў слоўнікавым парадку.

## Падсумаваньне

Прапанаваныя ў артыкуле зьмены ў традыцыйнай лацінцы скіраваныя на большую фанэтызацыю лацінкавага пісьма, што, сярод іншага, мае паспрыяць умацаваньню сыстэмнасьці беларускае графікі й падтрыманьню артаэпічнае нормы, а таксама наданьню большай адметнасьці беларускаму лацінічнаму тэксту.

**Аўтар будзе ўдзячны чытачом за прапановы, камэнтары, заўвагі з нагоды ўзьнятых праблемаў.** Свае водгукі можна накіроўваць на паштовы адрас: бульвар Шаўчэнкі, 22-51, Менск, 220068, або на электронны адрас: z_sauka@yahoo.com (з пазначэньнем тэмы: lacinka).

*Аўтар выказвае шчырую падзяку за інфармацыйную дапамогу Валеру Булгакаву, Гэніку Лойку, Мікалаю Пачкаеву, Пятру Садоўскаму й Ілоне Ўрбановіч-Саўцы.*

135 Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць. С. 44.

136 Гиляревский Р. С., Гривнин В. С. Определитель языков мира по письменностям. С. 305.

*Źmicier Saŭka* (Miensk, Belarus)

**RENEWAL OR CONSERVATION?**
**URGENT PROBLEMS OF THE BELARUSIAN "LACINKA"**

This article aims to determine to what extent the Belarusian "Lacinka" (i.e., the Latin script) in its present form could be used in the future. Certain written forms raise questions among everyday users as well as among linguists. The author considers some of the transliteration problems such as how to convey the hard and the soft *l* (the *l* problem); whether or not there should be a phonetic presentation for the sound combination [ji] (the use of the *j* before and at the beginning of the word and after the vowels); how to present the *g*. The article presents arguments both for and against the traditional spelling and suggests some ways of resolving the problems.